5п

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# МАЛАДНЯК КАЛІНІШЧЫНЫ

№ 3—4

ВЫДАНЬНЕ ФІЛІІ „МАЛАДНЯКА“

1926

# КАЛІНІНСКАЕ

## Акругавае Т—ва Сельска-гаспадарчага крэдыту.

## (Акрсельбанк)

Аснаўны капітал 125.000 руб.

Статут зацьверджан ЭКОСО БССР 9 лютага 1925 г.

Дзеяньні адчынены 25 красавіка 1925 г.

Паштовы адрас: *Клімавічы, Комуністычная вуліца.*

Тэлеграфны: *Клімавічы, Акрсельбанк.*

**ВЫДАЕ ПАЗЫКІ:**

Сельска-гаспадарчым крэдытным Таварыствам на крэдытаваньне сялян.

Дзяржаўным установам, кооперацыйным організацыям, трудавым арцелям, колектывам, комунам і асобным сялянскім гаспадаркам на пабудаваньне і паляпшэньне сельскай гаспадаркі і сельска-гаспадарчай прамысловасьці Калінінскай акругі.

**Дыскантыруе вэксалі:**

Выдае і сплачвае пераводы, акрэдытывы, робіць інкаса вэксалёў і інш. дакумэнтаў ваўсе месцы СССР, дзе маюцца корэсподэнты банку.

**Прымае уклады**

на бягучыя рахункі і плаціць:

па бязтэрміновым ад 7 да 8% гадавых

па тэрміновым „ 8½ „ 9½ „

**Уклады прымаюцца як Акрсельбанкам, так і с.-г. крэдытнымі Таварыствамі; апошніх у акрузе маецца 15, з якіх 10 у раённых цэнтрах і 5 у буйных вёсках.**

**Уклады забясьпечваюцца гарантыйным фондам Белсельбанку.**

*Праўленьне.*

П. Б-ка Ср. Аз.

Зок-1
11866

تو.ئاسياد كيتابخانەسى
С.-А. Г. Б.
ئينو. نومير
Инв. № 333

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# МАЛАДНЯК
# КАЛІНІНШЧЫНЫ

Орган Калінінскага Акр. Ком. ЛКСМБ і акругової філії Усебеларускага Аб'яднаньня поэтау і пісьменьнікау „Маладняк".

№ 3—4.

Выданьне Філії „Маладняка".
г. КЛІМАВІЧЫ—1926 г.

# Да акруговай філіі „Маладняк"

*На падставе экономічнага паляпшэньня ўсёй нашай краіны, непамерна* **узрастае актыўнасьць у запатрабаваньнях усіх колаў моладзі.** *Яскравым выражэньнем гэтай культурнай палітычнай актыўнасьці — ёсьць перш-на-перш — узрост нашага Камсамолу, а таксама жаданьне моладзі здаволіць свае культурныя запатрабаваньні праз арганізацыю усялякіх гурткоў і г. д.*

*Вядома, што Комсамол павінен правільна рэалізаваць гэту актыўнасьць і па магчымасьці шырэй задаволіць узрастаючыя запатрабаваньні моладзі.*

*Маючы наваколо сябе цэлую сыстэму падсобных арганізацыяў, як: Усебеларускае Аб'яднаньне поэтаў і пісьменьнікаў «Маладняк» з яго сеткаю філій у акругах, культгурткі, сельска-гаспадарчыя гурткі, гурткі фізкультуры і г. д. — Комсамол зможа гэта зрабіць прыцягваючы у гэтыя арганізацыі шырокія масы рабоча-сялянскай моладзі і правільна кіруючы гэтымі арганізацыямі.*

*Часьціну гэтае вялікай працы, у нашай Калінінскай акрузе выконвае Акруговая філія «Маладняка». Выхад у сьвет «Маладняк Калінішчыны» № 3-4—гэта чарговае дасягненьне ў гэтым напрамку*

*Жадаем яму шырокага распаўсюджаньня ў шырокіх колах рабоча-сялянскай моладзі.*

Бюро АК. ЛКСМБ.



Сядзяць: (унізе) **Карачун Алесь** *(адказны сакратар філіі)*, (другі рад) **Падабед Язэп** *(старшыня прэзыдыуму філіі)*, **Купцэвіч Фэлікс** *(загадчык АПА Калінінскага Акругкому КПБ)*, **Музыка Сымон** *(член прэзыдыуму філіі)*, (стаіць) **Модэль Міхась** *(рэдактар „Нашага Працаўніка)*.

# ПОЛІТЫЧНЫ РАЗЬДЗЕЛ.

**Міх. Модэль.**

## Ленін і моладзь.

**„Каша старое пакаленьне — старая бальшавіцкая гвардыя... досыць загартована ў змаганьні за рэволюцыю, у змаганьні за дыктатуру рабочае клясы і здолее перамагчы тыя цяжкасьці, якія спадаюць на яе долю ў змаганьні за соцыялізм. Але я ня мысьлю, каб гэта пакаленьне, да якога належу й я, здолела канчаткова даваршыць справу будаўніцтва соцыялізму. Скончэньне гэтай працы падзе на плечы новага, маладога пакаленьня соцыялістычнай рэволюцыі".** (разрадка мая М. М.)

І. **Рыкаў.**

(з прамовы на VII Усесаюзным зьезьдзе РЛКСМ «Правда» № 60 (3289)

Тав. Молатаў у організацыйнай справаздачы ЦК УсеКП на XIV партзьезьдзе сказаў:

„Важнейшым пытаньнем у дачыненьні да комсамолу зьяўляецца, зьяўлялась і будзе зьяўляцца сапраўднае бальшавіцкае кіраўніцтва працай комсамолу, і гэта пытаньне заслугоўвае асаблівае увагі".

Тав. Бухарын у дакладзе аб працы РЛКСМ таксама зазначыў, што: „усёй партыі неабходна зьвярнуць значна больш увагі на працу комсамольскай організацыі“

XIV зьезд, на якім стаяла пытаньне аб моладзі, даў дырэктывы Ленінскаму Комсамолу ў яго далейшай працы кіруючысь тым, што „змаганьне за моладзь, адпавядаючае яе выхаваньне, захаваньне прыемственасьці вопыта соцыялістычнай рэволюцыі, прыстасаваньне да вялікіх будаўніча—організацыйных задач дня пры захаваньні й узмацненьні правільнага кіраўніцтва падкрэсьліваюцца, такім чынам, галоўнейшымі асаблівасьцямі пережываемага кругабегу“*)

Як на XIV зьезьдзе, так заўжды ў гісторыі нашай партыі пытаньне аб моладзі разьвязвалася па марксыцкі, па Ленінскі, кіруючысь „галоўнейшымі асаблівасьцямі перажываемага перыяду“.

Пытаньне аб моладзі не зьяўляецца новым у жыцьці і працы нашай партыі.

Гэта проблема займала таксама віднае месца ў публіцыстычных выступленьнях, політычнай практыцы й літаратурнай дзейнасьці гэніяльнага яе правадыра Уладзіміра Ільліча Леніна.

Тав. Каменеў у прадмове да зборніка Леніна „Прамовы й артыкулы аб моладзі“, характарызуе адносіны Уладзіміра Ільліча да моладзі наступным чынам: „Уладзімір Ільліч ніколі не займаўся спэцыяльна рухам моладзі.

Аднак, ні ў сваіх публіцыстычных працах, ні ў політычных разьліках ён ня мог, запэўна, абыйсьці гэткага важнага фактара сучаснай політыкі, як рэволюцыйная організацыя моладзі“

*) Рэзолюцыя XIV зьезда УсеКП аб працы РЛКСМ.

І далей„ Уладзімір Ільліч нялятуценьнік, але, калі ён аб чым-небудзь марыць, гэта менавіта аб тым новым пакаленьні, аб рабочай моладзі, якая будзе будаваць тое, дзеля чаго старым давялося зруйнаваць."

Дачыненьні У. І да моладзі на розных этапах гісторыі рэволюцыйнага руху трэба разглядваць у зьвязку з агульнымі абставінамі і задачамі ўсяе рабочае клясы. „Кожны асобны лёзунг павінен быць выведзен з усёй злучнасьці асаблівасьцяў азначанага палітычнага палажэньня".

Рух моладзі ў Расіі да імпэрыялістычнай вайны зьліваўся з агульна-пролетарскім рухам, ня маючы ні ўласных організацый, ні ўласных проблем.

Дзякуючы таму, што аснаўной прычынай узьнікненьня юнацкага соцыялістычнага руху, зьяўляецца царызм і капіталістычны лад, аснаўная задача пролетарскай моладзі ва ўмовах буржуазнай грамады, зьяўляецца змаганьне за нізрыненьне існуючага ладу.

Слабая клясавая барацьба, прымітыўныя грамадзкія адносіны ў Расіі, канца XIX і пачатка XX веку стварылі з разначыннага студэнцтва асабістую (своеобразную) палітычную сілу.

Уладзімір Ільліч належным шляхам ацаніў гэты рух. Выхадцы з чужое клясы, пры данных конкрэтных абставінах рэволюцыйнага змаганьня, яны маглі быць выкарыстаны рабочай клясай у якасьці падсобнага атраду пролетарыяту ў змаганьні з царызмам.

Аддачу ў войска ў 1901 г. 183-х студэнтаў кіеўскага унівэрсытэту за вымаганьне адмяніць карцэры Ільліч называе аплявухай рэволюцыйнаму руху і кажа: „ці ня будзе школа рускай вайсковай службы школай для рэволюцыі? Хто зразумее гэта, той выйдзе з

вайсковай службы з анібалавым прысяганьнем змаганьня супольна *з перадавою клясаю народу* за вызваленьне яго ад дэспотызму".

Тутака т. Ленін уносіць у рэволюцыйны юнацкі рух элемэнт супроць мілітарыстычнай пропаганды, якая з вялікім посьпехам ужо вялася заходня-эўропейскімі юнацкімі організацыямі, у асаблівасьці Бельгійскай „Маладой гвардыяй".

На 2-ім зьезьдзе партыі Уладзімір Ільліч прапануе спэцыяльную рэзолюцыю, якая ставіць перад юнацкім рухам задачу выработкі комуністычнага сьветапагляду і паказвае на *неабходнасьць організацыйнай самастойнасьці* юнацкіх організацый пад кіраўніцтвам партыі. Вельмі важны пункт унесены Леніным і ня прыняты зьездам, гэта аб ложных „сябрах моладзі". „Сьцярагчыся тых лёзунгаў" сяброў моладзі, „якія адцягваюць яе ад сур'ёзнага рэволюцыйнага выхаваньня пустой рэволюцыйнай, альбо ідэалістычнай фразэолёгіяй і філістэрскімі гутаркамі аб шкодзе й непатрэбнасьці рэзкіх спрэчак паміж рэволюцыйнымі й опозыцыённымі кірункамі" Ільліч гэтай рэзолюцыяй перасьцярагае ад перавярненьня юнацкіх організацый у простыя культуркі, на ўзор створаных нямецкімі опортуністымі організацый, вясёлых экскурсій, пікнікоў, скокаў і дзіцячых гульняў, у мэтах адхіленьня моладзі ад політыкі.

Пастаноўка пытаньня Уладзімірам Ільлічом азначае перанясеньне асяродка цяжару з пэдагогічнага выхаваньня на рэволюцыйнае самавыхаваньне.

На гэтым зьезьдзе ў програму партыі быў уключан пункт аб забароне дзіцячай працы, эксплёатацыя якіх высоўвалася сьмяротным абвінавачаньнем супроць капіталізму.

У палітычную частку праграмы ўключан пункт: „Дарэмнае, абавязковае, агульная і профэсыянальная адукацыя ўсіх дзяцей абодвых станаў да 16 гадоў.

Забясьпечаньне бедных дзяцей ежай, адзеньнем і вучэбнымі прыладамі за кошт дзяржавы. У эканамічную—забарона прадпрыёмцам карыстацца наёмнай працай дзяцей да 16-ці гадоў."

Такім чынам, ужо 23 гады таму назад т. Ленін вызначаў першыя эканамічныя і палітычныя запатрабаваньні рабочай моладзі.

Ленін у тыя часы займаўся таксама вывучэньнем дзіцячай працы ў сялянскай гаспадарцы. З марксыстых, акрамя Леніна, гэтым пытаньнем займаўся толькі Каўтскі й то выключна тэорэтычна.

Уладзімір Ільліч лічбамі давёў, што дзіцячая праца больш за ўсё эксплёатуецца ў „самастойных" серадняцкіх сялянскіх гаспадарках, наўпрэкі зацьвярджэньням буржуазных вучоных аб тым, што „селянін—запраўскі й жыцьцяздольны гаспадар", а не нявольнік капітала".

Селянін не ў сілах трымацца не надрываючыся над працай сам і не прымушаючы ўдвойчы цяжэй працаваць сваіх дзяцей. Патрэба прымушае селяніна сваім горбам наганяць недахоп капіталу і тэхнічных удасканаленьняў.

На падставе лічбаў й фактаў Ленін робіць вывады аб тым, што „Капіталізм асуджае сялянства на найвялікшую прыцісканасьць і загубу. Ратунку іншага няма, акрамя далучэньня да клясавага змаганьня рабочых. Як Уладзімір Ільліч сурьёзна цаніў рух рабочай моладзі ў яго „вантробным" пэрыядзе, можна заключыць па тэй ролі, якую ён ёй прызначаў у разгар рэволюцыі 1905 году. „Адважней скла-

дайце новыя дружыны, пасылайце іх у бойку, *залучайце больш рабочай моладзі* (курсіў мой М. М.)

У годы крывавай імпэрыялістычнай бойкі рабочая моладзь ацэньвалася Уладзімірам Ільлічом галоўным чынам, як магутны фактар пропаганды супроць мілітарызму, як найбольш рэволюцыйная частка рабочае клясы, не паддаўшаяся шовіністычнаму чаду.

На штутгартскім агульна-соцыялістычным конгрэсе ў 1907 г. т.т. Ленін і Роза Люксембург у рэзолюцыю супроць мілітарызму, між іншымі, унесьлі наступную папраўку: „Кангрэс лічыць сваім абавязкам дапамагаць таму, каб моладзь з асяродзьзя рабочае клясы выхоўвалася ў дусе братэрства народаў й соцыялізму, і праніклася клясавай сьвядомасьцю“.

Уладзімір Ільліч пільна сачыў за тагочасным становішчам організацый моладзі.

Разглядваючы тактыку нямецкіх с.-д. у пытаньні аб антымілітарызьме, т. Ленін пісаў: „Роспуск організацыі моладзі ўсёй Нямеччыны, пасьледаваўшы ў выніках увядзеньня новага закону аб саюзах і сходках, забараняючы наведваньне політычных сходак асобамі маладзей 20 гадоў, надзвычайна ўтрудняў антымілітарыстычную агітацыю ў Нямеччыне“.

У. І. зазначае вялізарнае значэньне антымілітарыстычнай пропаганды бельгійскіх груп соцыялістычнай моладзі пад назвай „Маладая гвардыя“, налічваўшых 126 організацый.

Будучы ў Швэйцарыі ў час імпэрыялістычнай бойкі тав. Ленін навербаваў гурток рабочай моладзі ў 10—20 асоб яго адзінадумцаў.

Бэрлінская конфэрэнцыя Інтэрнацыяналу моладзі ў 1915 г. лепшы падарунак Ільлічу за шчыльную сувязь з заходня-Эўропейскай моладзьдзю.



Дзяржаўная бібліятэка імя У. І. Леніна

Тав. Ленін супрацоўнічае ў часопісі „Інтэрнацыянал моладзі“, дзе ён шчыра крытыкуе лёзунг усеагульнага разбраеньня. „Нашым лёзунгам — кажа Ільліч — павінна быць узбраеньне пролетарыяту дзеля таго, каб перамагчы, разброіць буржуазію“.

Чырвоная Армія характарызуецца, як „узброены саюз моладзі“.

Ільліч растлумачвае моладзі сэнс дыктатуры пролетарыяту „Соцыялісты стаяць за неабходнасьць выкарыстаньня дзяржавы ў якасьці асабістай пераходнай формы ад капіталізму да соцыялізму. Такой пераходнай формай, таксама дзяржавай, зьяўляецца дыктатура пролетарыяту“.

Адносіны тав. Леніна да памылак моладзі.

У той час, як ён зьяўляецца прыхільнікам рашучага змаганьня з ухіламі сярод сталых соцыял-дэмократаў, праваднроў рабочага руху, у дачыненьні да моладзі ён кажа: „Іншая справа — організацыя моладзі, якая адчынена заяўляе, што іх аснаўная справа — рыхтаваць работнікаў соцыялістычных партый. Такім людзям трэба ўсялякімі спосабамі дапамагаць, адносячыся, як магчыма трывалей да іх памылак, стараючыся выпраўляць іх, паступова й шляхам пераважна пераканаprovíньня, а не барацьбы“.

Тав. Ленін на ўсіх этапах юнацкага руху абараняе ідэю яго самастойнасьці, як неабходнай умовы актыўнасьці й самадзейнасьці моладзі. „За організацыйную самастойнасьць Союзу моладзі мы павінны стаяць бязумоўна і ня толькі ў выніках таго, што гэтай самастойнасьці палохаюцца опортуністыя, але і водлуг існасьці справы. Таму, што без поўнай самастойнасьці моладзь ня здолее ні вырабатаць з сябе добрых спэцыялістых, ні падрыхтавацца да таго, каб весьці соцыялізм наперад. За поўную самастой-

насьць Саюзаў моладзі, але й за поўную волю таварыскай крытыкі іх памылак. Лісьліць моладзі мы не павінны“.

Узаёмадачыненьне паміж партыяй і комсамолам дадзенае тутака, у аснаўным захована й да сяго часу. Ленінская закалка, атрыманая моладзьдзю ў часе імпэрыялістычнай бойкі, дапамагае таму, што Саюзы моладзі аказаліся на вышыні задачы ў часе фарміраваньня Комуністычных партый Заходняй Эўропы, у большасьці выпадкаў складаючы аснаўныя кадры гэтых партый.

У разгары Кастрычнікавай рэволюцыі, удзелу моладзі тав. Ленін надае надзвычайна вялікае значэньне. У „Парадах староньняга“ тав. Ленін піша „Вызначыць самыя рашучыя элементы нашых ударнікаў“ і *рабочую моладзь* (падкрэсьлена Ільлічом), а роўна лепшых матросаў у невялікія атрады для заняцьця імі ўсіх важнейшых пунктаў і для удзелу іх ва ўсіх важнейшых опэрацыях“.

Рабочая моладзь апраўдала прызыў Ільліча.

Прымаючы дэлегацыю 1-га зьезду Саюзаў моладзі 29 кастрычніка 1918 года, па пытаньню аб назьве саюзу ён кажа: „Справа ні ў назве, а назваўшыся Комуністычным Саюзам Моладзі, трэба назву комсамольца трымаць высока“.

У гутарцы з тав. Шацкіным напярэдадні 1 конгрэсу КІМ'а ў Бярліне, тав. Ленін папераджае яго.

„Памятайце, якая вялікая адказнасьць кладзецца на Вас“.

Прамова тав. Леніна на 3-ім зьезьдзе РЛКСМ ў 1920 годзе, зьяўляецца яго духоўным тэстамэнтам комсамолу й программай працы на доўгі тэрмін.

Галоўная думка тав. Леніна ў гэтай прамове „Менавіта моладзі прадстаіць сапраўдная задача стварэньня Комуністычнай грамады“.

Гэтым ён у кароткіх словах вызначае гістарычную ролю новага пакаленьня.

Галоўная задача, якая высоўваецца перад моладзьдзю, гэта „вучыцца“.

„Комуністым стаць можна толькі тады, калі абагаціць сваю памяць ведамі тых багацьцяў, якія выпрацавала чалавецтва“.

Але гэтага ня досыць. „Маладое падрастаючае пакаленьне можа вучыцца Комунізму, зьвязваючы кожны крок свайго вучэньня, выхаваньня й адукацыі з непарыўным змаганьнем пролетарыяў і працоўных супроць старай эксплёататарскай грамады“.

З тае прычыны, што „без работы, без змаганьня кніжныя веды Комунізму нічога ня варты, таму што яна прадаўжае стары разрыў паміж тэорыяй і практыкай, які складаў самую брыдкую рысу буржуазнай грамады“ не мажліва пабудаваць комунізм ні усьвятліўшы сабе таго, што набыта чалавечай навуковай думкай. “Чаму—пытае тав. Ленін—вучэньне Маркса здолела аўладаць мільёнамі й дзясяткамі мільёнаў сэрдцаў самае рэволюцыйнае класы?“

„Гэта адбылося таму“, адказвае ён, „што Маркс грунтаваўся на моцным фундамэнце чалавечых ведаў“, заваёваных пры капіталізьме.

Але гэтыя веды трэба крытычна прапрацоўваць, каб не атрымалася верхглядзтва.

Выходзячы з таго, што краіна павінна перабудаваць сваю промысловасьць і сельскую гаспадарку на новай тэхнічнай базе, на аснове электрофікацыі, тав. Ленін робіць вывады, што „да электрофікацыі няпісьменныя асобы ня падойдуць“.

Тутака патрэбны веды „як тэхнічна прылажыць яе (электрофікацыю. М. М.) і да прамысловасьці, і да земляробства, і да асобных галін прамысловасьці і земляробства“, бо „Комуністычны Саюз моладзі ўзяў на сябе задачу дапамагчы партыі будаваць комунізм і дапамагчы ўсяму маладому пакаленьню стварыць Комуністычную грамаду“.

Тав. Ленін у сваёй прамове дае таксама тлумачэньне комуністычнай моралі. „Задача Комуністычнага Саюзу Моладзі,—кажа тав. Ленін, — паставіць сваю практычную дзейнасьць так, каб вучачыся, організуючыся, яднаючыся, змагаючыся, гэта моладзь у сябе і ва ўсіх тых, хто ў ёй бачыць правадыра, выхоўвала комуністых“.

Трэба, каб уся справа выхаваньня, адукацыі й вучэньня сучаснай моладзі, было выхаваньнем у ёй *Комуністычнай моралі.*

„Наша абычайнасьць *выводзіцца з інтарэсаў клясавай барацьбы* пролетарыяту“

Быць сябром Комуністычнага Саюзу моладзі значыць „вясьці справу так, каб аддаваць сваю працу, свае сілы на агульную справу. Комуністычны саюз моладзі павінен быць ударнай групай, якая ва ўсякай працы аказвае сваю дапамогу, праяўляе сваю інцыятыву свой пачын“.

Тав. Ленін ускладае на комсамол абавязак выхоўваньня ўсіх з маладых гадоў у „сьвядомай і дысцыплінаванай працы.“.

Гэта прамова павінна быць дасканальна вывучана кожным комсамольцам, таму што яна зьяўляецца згусткам Ленінізму ў пытаньнях, датыкаючыхся задач моладзі, шляхоў юнацкага руху, метадаў барацьбы, канцовай мэты.

У 1922 годзе тав. Ленін на 4-м конгрэсе Комінтэрну, кажучы аб дзяржаўным апараце, зазначыў „менавіта моладзь (рабфакаў, Вузаў, і інш.), дасьць нам новых людзей, каторыя здолеюць пабудаваць новы апарат“.

Апошняе слова Ільліча Камсамолу было сказана ў пісьмовым прывітаньні 5 зьезду РЛКСМ. „Моладзь павінна падрыхтаваць сябе да наступнага моманту насьпяваньня міравой рэволюцыі“.

Вось кароткі аналіз сказанага й напісанага тав. Леніным па пытаньню аб моладзі на розных этапах рэволюцыйнага руху.

Гэты яркі факел Ленінізму асьвятляў і будзе асьвятляць шлях Ленінскага Комсамолу да „наступнага моманту насьпяваньня міравой рэволюцыі“.

---

М. Каменскі.

## XIV зьезд УсеКП аб працы Р. Л. К. С. М.

XIV зьезд з вялікай увагай разглядваў пытаньне аб працы РЛКСМ і даў бальшавіцкі кірунак Ленінскаму Комсамолу ў яго далейшай працы.

У рэзолюцыі зьезда зазначаецца: „Аснаўнымі зьявішчамі ў працы Комсамола можна лічыць,— кажа XIV зьезд УсеКП у сваёй рэзолюцыі аб працы РЛКСМ— у сучасны момант чатыры зьявішчы: па першае буйны ўзрост саюзу і піонэрскай організацыі, у асабліваьці ўзрост сялянскіх ячэек саюзу, па другое, па-

слабленьне дысцыпліны й рост цякучасьці ў радах комсамола; па трэцяе (што асабліва важна падкрэсьліць) налічча азначанага супярэчча паміж існуючымі формамі, зьместам працы з аднаго боку, і бягучымі запатрабаваньнямі, аснованымі на гаспадарчым росьце,—з другога, урэшце па чацьвёртае, супярэчча паміж буйным ростам саюзу, а таксама піонэрскай організацыі й недастатным колькасна й якасна кіраўніцтвам (на лініі—пролетарыят і сялянства, Партыя і Комсамол, Комсамол і піонэры").

Задачы РЛКСМ у сучасны момант вызначаюцца: з аднаго боку—агульнай гаспадарча-палітычнай сітуацыяй—з другога боку тымі аснаўнымі зьявішчамі ў саюзе, якія зазначаны зьездам.

Чым характарызуюцца асаблівасьці бягучага моманту, да якіх павінен прыстасоўваць сваю працу РЛКСМ?

Яны характарызуюцца „гаспадарчым ростам, як у горадзе, так і ў вёсцы; посьпехамі соцыялістычных элемэнтаў гаспадаркі пры абвастрэньні супярэчнасьцяў паміж рознымі гаспадарчымі формамі (дзяржаўная гаспадарка й прыватны гандлёвы капітал; рост кулацтва ў вёсцы пры адначасным уздыме серадняка й частковай пролетарызацыі беднаты і г. д.); новае ў узаемадачыненьні паміж горадам і вёскай наогул (недавытворчасьць, ня гледзячы на рост у галіне індустрыі) на падставе ўсеагульнага разьвіцьця таварнай гаспадаркі".

Цэнтральнай проблемай комсамольскага руху ў сучасны пераломны пэрыяд зьяўляецца прыстасаваньне мэтадаў, формаў і зьместу працы Комсамолу да новых запатрабаваньняў мас, выявіўшыхся ў выніках гаспадарчага ўздыму. Неабходна высунуць лёзунг ажыўленьня комсамольскіх організацый.

Задача ажыўленьня працы Комсамолу, зьмяненьня яе зьместу выходзіць з запатрабаваньняў моладзі, якія йдуць у наступных трох галоўных напрамках: па першае—па лініі гаспадарчага ўздыму, па лініі матар'яльнага палажэньня, па лініі лепшай і моцнай пазыцыі ў галіне вытворчага процэса; па другое,—па лініі паляпшэньня вядомай кваліфікацыі, г. з. жаданьня атрымаць вядомую (профэсыянальную, у першую чаргу), „сапраўдную адукацыю"; па трэцяе,—па лініі вядомай паквольнасьці й мінімуму забаў. Тая ячэйка жывая й вядзе сапраўды карысную працу, якая (па думцы т. Бухарына) „ставіць пытаньні профэсыянальнай адукацыі, экономічныя пытаньні, пытаньні вытворчасьці, пытаньні тэхнічныя, а ў вёсцы сельска-гаспадарчыя пытаньні, пытаньні комсамольскага дабрабыту і інш."

З зазначаных здаровых запатрабаваньнях моладзі могуць быць ухілы: адзін ухіл—голая і някрытычная дапамога моладзі ў яе намерах лепш упарадкавацца ў вытворчасьці й атрымаць сталую профэсыянальную адукацыю, і другі ўхіл—прамое змаганьне з гэтым рухам.

Цэнтральнай проблемай усей комсамольскай працы зьяўляецца „увязка асабістага й групавога інтарэса з інтарэсамі ўсяго клясу, падпарадкаваньне штодзённай будаўнічай працы агульным рэволюцыйным задачам пролетарыяту".

Сучасны момант патрабуе сур'ёзных зьмяненьняў у мэтадах працы

Нельга абмяжоўвацца дакладамі аб „міжнародным становішчы," нельга „вітаць вооблацэх". трэба падвесьці значна больш шырокі й моцны грунт пад інтэрнацыянальна--рэволюцыйна—комуністычнае выхаваньне.

„Мэтад працы ў комсамоле таксама, як і ў партыі, у профсаюзах і інш., павінен быць завостран у бок узмацненьня унутрыкомсамольскай дэмократыі“ (Бухарын). Ня зусім добра абстаіць справа з комсамольскім актывам: жыцьцё вельмі ускладнілася й кіраўнічаму складу комсамола патрэбны спэцыяльныя тэхнічныя веды і спэцыяльныя палітычныя веды.

Неадпаведнасьць паміж кваліфікацыяй актыву і запатрабаваньнямі ўсёй комсамольскай масы зьяўляецца вельмі хваравітым зьявішчам. XIV зьезд УсеКП у сваёй рэзолюцыі зазначае: „Комсамол ня здолее буйных задач паўшых на яго долю, калі ня будзе палепшан колькасна й якасна яго актыў“ і далей: „Вывучаньне ленінізма павінна быць пастаўлена ў асяродку увагі выхаваньня комсамольскага актыву“.

..Зьезд зьвяртае увагу на ўсю сур'ёзнасьць палажэньня і абавязвае УсеЛКСМ прыняць усе меры дзеля павышэньня агульнай, у асаблівасьці палітычнай, кваліфікацыі гэтага актыву“.

З другого боку „колоссальный рост, комсомола“, ускладненьне задач і труднасьцяў у яго працы, адносная слабасьць і няпісьменнасьць саюзнага актыву— ставяць больш востра, чымся калі-б та ні было, пытаньне аб узмацненьні парткіраўніцтва саюзам.

Надзвычайна сур'ёзна стаіць пытаньне аб соцыялістычным выхаваньні моладзі. Незразуменьне сутнасьці нашай палітыкі ў вёсцы, дзяржаўнай прамысловасьці, проблемы ўзаемадачыненьняў паміж партыяй і клясай, і іншыя ўхілы могуць мець месца пры неправідловай пастаноўцы соцыялістычнага выхаваньня. Зьезд у сваёй рэзолюцыі зазначыў неабходнасьць „прэемственасьці ў галіне соцыялістычнага выхаваньня“ і змаганьня з „небясьпекай поўнай страты парспэктыў соцыялістычнага разьвіцьця“.



[library stamp]

У адносінах пытаньня, па якому адбываліся спрэчкі на XXII Ленінградзкай партконфэрэнцыі, „зьезд лічыць нямэтазгодным прапанованую некаторымі таварышамі, асобную ад УсеЛКСМ організацыю серадняцкай безпартыйнай сялянскай моладзі навокал комсамола ў выглядзе сталых дэлегацкіх сходаў. Такія організацыі нямінуча разьвівалі-бы тэндэнцыю перавярненьня ў другі, чыста сялянскі саюз, у процілегласьць УсеЛКСМ і партыі“.

Важнай задачай, якую зьезд паставіў перад УсеЛКСМ, зьяўляецца барацьба за рацыяналізацыю і упарадкаваньне дабрабыту моладзі. У рэзолюцыі па гэтаму пытаньню зазначана:

„Астаткі старай „наплевістскай“ распушчанасьці і анархізма ў дабрабыце ўступаюць цяпер у катэгарычнае спатыканьне з запатрабаваньнямі гаспадарчага развіцьця“...

„Элемэнты распушчанасьці ..павінны ўрэшце стаць об'ектам рашучага змаганьня з боку організаванай часткі пролетарскай моладзі“.

Важнейшай проблемай у комсамоле зьяўляецца проблема пролетарскага кіраўніцтва, з тае прычыны, што чым большая актыўнасьць разьвіваецца сярод непролетарскіх колаў, тым больш мы павінны зьвярнуць увагі на консолідацыю, сплачэньне й узмацненьне комсомольскай кіраўнічай пролетарскай часткі.

Лёзунг 100% рабочай моладзі ў саюз павінен застацца задачай Комсамола.

Поруч з гэтым павінна йсьці павялічэньне партыйнага асяродку ў Комсамоле.

Таксама павінна быць палепшна кіраўніцтва Комсамола піонэрамі.

Ня досыць сталае кіраўніцтва партыей комсамолом, зьяўляецца аднэй з прычын наліччa ў Комсамоле

2-х ухілаў: так званая — тэорыя нейтралітэту ў спрэчках, адбываючыхся ў партыі, і супрацьлеглы ўхіл— раўнапраўя з партыей.

Зьезд абодвы ўхілы ў сваей рэзолюцыі рашуча асудзіў і прапанаваў мясцовым організацыям партыі, а роўна й ЦК партыі, зьвярнуць на гэтае пытаньне пільную ўвагу".

Вось некаторы агляд важнейшых задач, высунутых зьездам перад УсеЛКСМ у ортодоксальным Ленінскім напрамку, даючых кірунак УсеЛКСМ на ўвесь надыходзячы пэрыяд.



# ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ РАЗЬДЗЕЛ

Алесь Валожка

## На бацькаўшчыне

.... Ціхае, яснае неба. Ліпнёвае сонейка, не шкадуючы, разсыпае сваё праменьні над працоўнаю зямлёй...

Гарачыня.

Усё пахавалася, дзе хто мог, нават птушкі дык і тыя змоўклі; ня чуваць іх вясёлага шчэбету.

Ціха ў полі.

І толькі чутно, як сакочуць, аб нечым шэпчуцца паміж сабою каласкі, пакіўваючыся вядуць нейкія патаемныя перагаворы, мо' і ім ня дужа соладка, на гэтых мужычых, вузенькіх загонах, мо' і іх нешта прыгнячае, дусіць, не дае свабоды маладому жыцьцю?

Ціха і ў вёсцы Лябёды, якая вось тут, па-за ўзгоркам, прытулілася, як дзіцё сіратлівае, да цёмнага вялікага бору, адным канцом, а другім—далёка ўпёрлася ў поле.

Пустая вуліца. Ні душы.

Толькі сабакі, высулупіўшы языкі, ляжаць пад варотцамі, або так дзе ў цяньку, ля пуні, ці хляву і гэткая размага пабрала іх, што брахаць, пэўне, іх ні за вошта ня прымусіў бы.

І як бы на паказ усёй вёсцы, стаіць пасярэдзіне,

на ўзгорачку, хата Язэпа Мірагошчы, як на далоні пастаўлена яна, каб паказаць мусіць гора, бяду людзкую.

Пакасілася на бок, страха спаўзае, комін пахіліўся, вокны ледзь у зямлю ня ўлезьлі, ды і ўся яна такая, што здаецца пнуў-бы нагою і знаку ад яе не асталося-бы.



—Ціха...

Але раптам дзьверы адчыніліся і выйшла на двор цётка Агата, Язэпава матка; прылажыўшы руку да вачэй, глянула ў неба.

—„Эге, ды ўжо пара палуднаваць, несьці! Вось як ужо высака паднялася сонейка; будзе лаяцца Язэп, бач запрацаваўся ён на гэтай падзёншчыне!“

І хутка павярнуўшыся ў хату, Агата цераз хвіліну выйшла зноў з яе і, залажыўшы дзьверы на davidruчок, бадзёрым крокам пайшла праз гароды, у поле, у бок панскага палацу, паноў Залескіх, што відне́ўся на ўзгорку за бальшаком.

З ладышкаю шчаўлю ў ручцэ і добраю лустаю хлеба ў торбачцы ў другой, доўга яшчэ паміж сьценамі жыта мітусілася яе беленькая хустка і, у рэшце, згінула па-за ўзгоркам, зьліўшыся з зеленьню палёў.

Вось і бальшак. Стары, екацярынінскі, густа абсаджаны стагадовымі бярэзінамі, як вартаўнікамі ў безмоўі стаячымі на варце.

Чаго-чаго толькі ня бачыў ён, гэны бальшак?

—Каго толькі не насіў ты на сваіх плячох?

Чый конь ня біў капытам па тваіх грудзёх?

І роты казакаў расейскіх бадзяліся па табе усь-

міраючы „бунт“ беларускага мужыка, і бліскучыя выезды паноў, што выязджалі ў госьці па суседнім панам альбо ў касьцёл. Бачыў ты, як апошнюю кароўку гнаў мужык, каб выплаціць недаімку. Пад тваімі бярозамі ня раз праязджала вясельле сялян, не раз па табе ганялі мужыка ў далёкую краіну. Бачыў ты сьмех, але мусіць болей пралілася на пясок твой мужычых сьлёз!

—Эх! ды чаго ты толькі ня бачыў, чаго толькі ня чуў.?!

Вось, глянь, і цяпер, уздымаючы, пыл імчыцца цэлая ватага конных жандараў. Іх высокія, стройныя пазнанскія коні ўзмылены, постаці людзкія зморены. Гарачыня, пал мусіць і на іх адбілі сваю адзнаку. Але не! Вось той, што імчыцца паперадзі, мусіць ахвіцэр, глянь толькі на яго, зірні ў твар і здаецца, што гэты розпал яшчэ болей разпаляе яго кроў.

Парывістыя рухі, заўзяты злобны выраз твару, праклёны, штохвіліну спадаючыя з вуснаў, усё сьведчыць аб нечым страшным, што павінна адбыцца там, куды накіраваліся коні верных слуг праклятых паноў.

Так, недзе адыграецца вялікая трагэдыя, некаму ўспомніцца панская воля, праклянe мусіць нехта і тую хвіліну, калі радзіўся.

Але вось і паварот. Ледзьве ўсьпела Агата зыйсьці з дарогі, як прамінулі яе жандары і зьвярнуўшы з бальшака падаліся па полі ў бок Лябёд.

Вельмі зьдзівілася старая.

—„Куды гэта яны накіраваліся, злыдні? І якая гэта трасца нясе іх у наш бок?“— падумала старая.

Поўдзень, во-во, надыходзіў; пара сьпяшацца на сенажаць, дзе чакае маму мо‘ змардованы касьбою яе даражэнькі адыны сынок.

І плюнуўшы ў бок аб'ехаўшых, Агата шпарка пайшла далей.

II.

Як толькі вокам кінуць, параскінулася, пазаняла ўсе прасторы, на абапал рэчкі Быстрыцы, вялікая сенажаць.

„Дзікі Лог“ (як звалі яго акружаючыя сяляне), быў уласнасьцю пана Залескага, чый маёнтак недалёка адгэтуль віднеўся.

Што за прыгожасьць, якая раздольная шырыня. Гэтак прасторна, што, здаецца-бы абняў-бы цэлы сьвет, адгэтуль.

А пах, араматы міліёнаў кветак, разкіданных па ім як узоры на дарогім пэрсідзкім дыване, слупам стаіць у паветры і грудзі аж разрываюцца ад паўнаты і прыгожасьці.

Мілагучнае жужжаньне тысяч пчол, чмялей, якія старанна перабіралі кветку за кветкай, абіраючы свой падатак, напаўняла паветра, як нейкая музыка.

Скрып калёс, ад'язджаючых з поўнымі пахучага сухога сена, лязгатаньне менташак аб косы, ледзь чутны сьпеў баб—грабельніц—усё гэта рабіла нейкае дзіўнае ўражаньне сьвята працы.

—Гэй, хлопцы, глянь, як высока сонца, мусіць пара палуднаваць—крыкнуў дзед Сапрон, які нягледзячы на свае 60 гадоў, ішоў яшчэ ў пярэдніх радох маладых, самых спрытных, касцоў.

—Язэп, кідай, хай яго паляруш косіць—прабурчэў Янка, сваяк Язэпаў, які йшоў за ім усьлед.

—Але, дый праўда, будзе! пара шабашаваць,—
—Канчай, хлопцы! —

І ўскінуўшы на плечы косы, пацягнуліся мужчыны ў іўняк над рэчкаю, каб у халадку адпачыць крыху пасьля шматгадзіннай напружнай працы.

Раскінуліся на мяккім мураве, як багатыры якія, разваліліся касцы і толькі цяжкое сапеньне выдавала, што ляжаць жывыя людзі.

—І што гэта, браточкі вы мае, робіцца ў нас?—перавярнуўшыся на плечы, задзёршы бараду ў гару і, закінуўшы рукі за галаву, прагаварыў Сапрон.

—Ніяк сабе ў толк не вазьму, а пражыў ужо здаецца ня мала год.—



—А што робіцца?—запытала адразу некалькі галасоў.

—Ды як што? ня-ўжо не ведаеце? во і сёньня спалілі Лаўцавіцкага пана, увесь двор, гавораць, пайшоў пятухом, і самаго чутно таксама прыкончылі—

— Дый зьвяруга быў, сволач такая, як толькі яго зямля насіла — адазвалася Стэфка, жонка аднаго з касцоў, да гэтуль маўчаўшая.

— Толькі аканом з лёкаем уцяклі, сядзяць у нашага папа—.

— Дык вось што, а я выйшаў у ноччы, гляджу гарыць недзе, думаў Парэчча, а яно вось дзе—адазваўся на гутарку Тодар з Лябёд.

— Эх, да і колькі іх ужо пагарэла за вясну і лета, проста страх, а яны, гады, яшчэ болей начынаюць зьдзекавацца над працоўным селянінам—злосна прагаварыў Язэп.

— Ты толькі паглядзі на нашу заразу. што села вось тут, як скула на сраку.

— Дзе ня кінь вокам — усе панскае: лес панскі, поле панскае, сенажаць панская, ды ўсе якое добрае, усё як на падбор. А наша, дык і сам чорт не адшукае горшай: — палоска цераз палоску так і скача.

. Што ні найгоршая зямля, дык тая наша, дзе на сенажаці трава не расьце — гэта вясковая.

І чаму гэта так?

Аднаму дык без меры ўсяго, а нам, так хоць пухні з голаду.

— Паглядзі, усё-ж не малая вёска наша, а ці многа знойдзеш ты гаспадароў, што жылі-б сваім хлебам да новага ураджаю.

— Не, браткі вы мае, мала, вельмі мала —

Вось і ходзім да пана на падзёншчыну, каб кавалак хлеба заробіць. А працуем дык зусім задарма, а ён, зараза, лічыць, што яшчэ ласку нам робіць —

— Стаіць прыказчык ды толькі і ведае, што падганяе: хутчэй ды хутчэй, ляпей ды ляпей — слова людзкага ніколі не пачуем.

І чым мы горшыя ад іх? Наша зямля павінна быць, потам і кроўю нашаю змочаны разоркі па ёй.

— А паноў прэч далоў!

— Але, — але!.. загаварыла адразу некалькі галасоў і пачалі разважаць ды выліваць, калі, дзе і за што нарабіў ім пан крыўды.

Асабліва абурываўся дзед Сапрон, якому, як відаць, вельмі многа прышлося перанесьці на сваім жыцьці.

— Эх! хоць валасы мае ўжо сівыя, ды і хворасьць бярэ, а як паслухаеш аба ўсім, дык здаецца, во сам бы ўзяў, дый пайшоў ругатаць—

— Цяжка, браткі, цяжка...!

І як чорная хмара налеглі цяжкія думкі ў галавы мужыкаў. Увесь векавечны прыгнёт, увесь цяжар жыцьця, прадвечная несправядлівасьць, усё ўсплыло перад вачмі.

—Ну, сынок, вось і я, відаць крыху спазьнілася— прагаварыла Агата,—падыходзячы да грамады і зварачваючыся да сына.

— Сядай, матулька; нішто, пасьпеем; толькі вось прыселі.

— Так палуднуй, пабуду я тут з вамі крыху, умарылася вельмі нешта. —

Такая гарачыня, што ўсё аж млееиь, надта цяжка йсьці, ды і гады мае ўжо не малыя. —

— Гэ, куды там, цётачка, вы ў нас яшчэ спрытнейшая за якую маладзіцу — весела прасакатала Стэфка.

Яшчэ не адзін гадок прабудзеце з намі і Язэпа трэ' ажаніць, а то бадзяецца, як труцень, унучат павыгадаваць і .. да мала ці яшчэ чаго,- гады... гады...

— Кінь ты, сакатуха, табе толькі-бы зубы і скаліць — сьмяючыся адхінулася ад весялухі цётка Агата.

І як гэта вам касіць, гэткім палам, адна мусіць пакута?—

— Ды ня лёгка—

— А чуеце, мужчынкі, вось мала зусім не забылася, гэткая слабая памяць.

Жандары паехалі ў наш бок, ды туча якая. —

— Жандары?—

— Што за трасца? Чаго?

— Куды?

— Падатак здаецца заплацілі, амаль усе.

— А ліха ж іх ведае! Выйшла гэта я на бальшак, аж з-за паваротні, калі высыпала іх, ды многа,

ледзь з дарогі пасьпела зыйсьці, і зьвярнулі ў наш бок з бальшаку.

— А калі-б вы бачылі! Высокія ды стройныя, як тыя на карцінцы ў кніжках.

— Дык кажаш жандары?

— Бяда нейкая страслася.

І ў той час, як мужычыя голавы цяжка разважалі, як кожны вышуківаў прычыны выклікаўшыя наезд няпрошаных гасьцей, ціха падняўся Язэп і паманіўшы пальцам Янука, адыйшоўся ў бок.

— Чуў! Гэта не спраста, тут нехта язык прыкалажыў і за Лаўцовіцкага паніча пачнецца расправа —

— Але што цяпер рабіць?—

— А вось. У Лябёды цяпер ужо пазнавата, няма чаго бегчы, нічога там цяпер не паможаш.

Пройдзем вечарам самі, там дазнаемся.

А ты цяпер ляці ў Рабцы да Рыгора, каваля, ведаеш?

— Ды рэч вядома — ведаю.

— І скажы яму, аб чым чуў, няхай папярэдзіць хлапцоў.

— Ніяк і да яго дабяруцца.—

— А што яшчэ?...

— Нічога.—

— Ён сам ведае, што трэба рабіць А ты хутчэй вяртайся назад, ды глядзі нават і віду не падавай. Дзела, брат, сур'ёзнае.

— Сам ведаю, не маленькі!

— Валяй, браток, сьпяшайся.

І як ні ў чым ня бывала, вярнуўся Язэп да грамады, уткнуўся ў ладанку з шчаўлем. Ціха неяк лілася гутарка паміж касцоў, як бы забыліся, што на панскай касьбе, што пара зноў брацца за касу.

Але не забыў сваіх абавязкаў панскі ўправіцель

які ў гэты час пад'язджаў вярхом на коніку да месца адпачынку касьбітоў.

Маленькі, брухаты, жырам заплыўшы, здаваўся нейкім адлюдкам, кавалкам мяса, ускінутым на каня, як на вілкі. Яго круглы заплыўшы твар, на кароткай і тоўстай шыі, акрамя затаеннай варожасьці, нічога не гаварыў.

— Ну! Гультаі, вось разьляглíся! Век бы ляжалі, ды за панскія грошы, пара за касу брацца!

— Якія, панок, гультаі, вось толькі папалуднавалі, завошта абражаеце?

— Гэта яшчэ што за гутаркі, хамскія морды.

— Абражаеце!!! Абражаеце!!!

Тое ж выдумалі. Ды ці ведаеце вы, што гэта „абражаеце“, тое ж выдумалі.

— Сьвіньні, вы! Мужыччо!

— Марш на работу! Грошы дарма браць любіце, толькі і жылі-б на ашуканстве,

Няма ні на каліва сумленьня! А яшчэ абражаеце.

Хутчэй!

— Ня нукай, ня коні, самі ведаем, — хмура прабурчэў Язэп і так скінуў вачыма на цівуна, што той аж заёрзаў у сядле.

— Паганяч панскі! Ня досыць, што працуеш на вас дармаедаў ад зоркі і да змроку, што сваімі мазалямі кормім гэткіх, як вы, што самі гаруем!

— Але зьдзекавацца над сабой не дазволім!

— Будзе! Так ты сабе і запішы, а то глядзі...

І ў паветры пад самым носам цівуна бліскавіцай мільганула, зазьвінеўшы, як срэбная струна, Язэпава каса.

— Так-та, панок!—

— Ну, пайдзем, дзядзькі!

Заварушылася да гэтага часу стаяўшая грамада;

вельмі блішчэлі іх вочы, грозны былі іх твары, тысячалетні ўціск знайшоў сваё межы. Далей народ цярпець ня хоча.

Гэта добра зразумеў, астаўшыся з адчыненым ротам сярод сенажаці управляючы.

Добрую хвіліну прастаяў ён так.

— Ach! psia krew! chamy! buntować!

— Я-ж вам пакажу, як шанаваць мой шляхецкі гонар, я вам пакажу, дзе ракі зімуюць. —

— А ты, Язэп, басяк, пападзешся, пазнаеш адкуль ногі растуць.

— І завошта, вы панок даражэнькі, так усердаваліся на дурное дзіця?

— Сама ты дурная, старая баба — скрозь зубы прашыпеў цівун, злосна блісуўшы вачыма, сьцебануў каня і шпарка памчаўся ў бок двара.

— Ну, і чалавек, лаецца з чаго, каб ты запытаўся?! Далі бог ня ведае сам!

— Вось і сьвет! ну, і людзі!

Пайдзем, Стэфка, двору, загуляліся, мабыць пара ўжо скаціну парадкаваць.

III

А ў вёсцы ў гэты час, так спакойна і мірна дагэтуль жыўшай, тварылася ніколі нячаканае зьявішча.

Атрад жандараў, ускочыўшы на ўзмыленых конях у самую вуліцу і ня сустрэўшы нікога спініўся каля зусім новае, і з гэтае прычыны вельмі прыгожае хаты, пабудаванай на гарадзкі лад належачай багацейшаму жыхару вёскі — Сьцяпану Бураку.

— Гэй, хто ёсьць там жывы?! Скамандаваў ахвіцэр, залапатаўшы нейкім дручком па вакну так, што шыбы ў адзін момант высыпаліся, разьбіўшыся на дробныя кавалкі.

— Паночкі, даражэнькія, што-ж гэта вы робіце? няма нікога ў хаце, адна я старая, ды нядужая асталася. Усе ў полі. Дый каго вам трэба?

— Не твае дзела, старая! скажы ляпей, дзе стараста жыве?

— Дык гэта-ж мой Сьцяпанка, ў полі ён, пайшоў на сенажаць, наглядаць за касьбой.

— Зараз-жа трэба паслаць за ім, каб найхутчэй прышоў. —

Выправіўшы ўнука Янука, хлапца гадоў 11, старая тут жа запрасіла жандара ў хату.

— Заходзьце, панок! Каня можна ў хлеў паставіць, каб авадні не загрызьлі. Дый самі адпачнеце з дарогі. Я вам малачка студзёнага са склепу зараз падам.

— А, млека! то добра — заіржаў паручнік, і аддаўшы каманду, каб разходзіліся па кватэрам яго салдаты, кінуўшы павады, пайшоў у хату, куды ў незабаве зьявіўся Сямён.

Доўга аб нечым гаварылі стараста з ахвіцэрам, доўга чуваць быў толькі ўзвышаны голас жандара ў заднім пакоі сьвятліцы Сьцяпавай хаты.

Ужо сталі прыганяць скаціну, варочацца сяляне з поля, калі нарэшце выйшлі на двор ахвіцэр з старастам.

Чырвоныя твары, няпэўнасьць у нагах, і нясувязанасьць мовы, даказвалі, што папалуднавалі яны добра і што кусок сухім у горла ня лез.

Скліканыя загадзя, жандары, жвава пастроіліся й праз хвіліну панясьліся кароткія адрывістыя гукі вайсковае каманды, відаць адразу, што людзі разумелі ня толькі словы каманды, але й тое што крыецца па-за імі. Ня першы раз прыходзіцца разпраўляцца з „хлопам“, справа вядомая. . і цераз

накалькі часу па ўсім сяле толькі было чуць, што прычытаньне і плач баб, скабрэдную лаянку „цывілізаваных“ жаўнераў, пакорлівыя просьбы гаспадароў, абараняючых апошнюю адзёжыну, ці яшчэ там што ад хцівага паляка.

Хутка па ўсім дварам справа была амаль што скончана, шукалі аружжа, „бандытаў“ — пазабіралі грошы, падушкі, сьвіткі, арыштавалі з дзесятак хлапцоў.

Зьвезшы ўсё гэта да старастава́й хаты, і цесна акружыўшы арыштаваных, пад крыкі й лаянку, чакалі свайго начальніка.

А ён у гэты час разам з старастай і цэлай бандай жандараў у Язэпавай хаце чыніў суд і расправу. Зьвязаны па руках Язэп сядзеў на лаўцы. Крывёю заліты твар яго сьведчыў аб тым, якую гутарку і як вёў з ім жандар. Перавернутая ўверх дном хата, хлеў, пуня сьведчылі, што ўпарта нечага шукалі, але знайсьці не змаглі

Сярдзіты сядзіць пры стале ахвіцэр, вочы яго палыхаюць злоснымі праменьнямі, рукі моцна заціснуты ў кулакі.

— Німа ніц! — адрапартаваў увайшоўшы з надворку жаўнер — усё што можна была, ўсё перавярнулі.

— Глупства, шукаць ня ўмееце, запытайся яшчэ раз у яго, мусіць сказаць, — прыказаў ён салдату, кінуўшы вокам на Язэпа.

Здаровая рука моцна апусьцілася на твар зьвязанага Язэпа, кроў яшчэ больш буйнейшым руччом зацюркатала з разьбітага твару.

Больлю, злосьцю, помстаю засьвяціліся вочы, але не прагаварыў ні слова.

— Мув, пся крэў.

— Паночак! што робіце? Дзіця нявіннае завошта так б'іцё, завошта такія зьдзекі. Як толькі бог

сьвяты трымае вас на зямельцы — загаласіла Агата і кінулася да Язэпа, каб абараніць сваім матчыным целам роднае дзіця.

Але кулак у плечы... і старая бязпрытомная адкінулася пад печ.

— Ня лезь, не тваё дзела — і зноў пачаліся бойкі — зьдзекі пакуль ня спынілі іншыя разьюшанага жандара.

Нічога не знайшлі, хоць перавярнулі да гары ўсю хату, але гэта не магло здаволіць паручыка, ён меў пэўныя весткі, ён у вясёлай кампаніі пахваліўся што цераз 24 гадзіны прадставіць увесь партызанскі атрад. А тут як раз нічога не ўдаецца — але ўсё роўна.

— Арыштаваць яго, гэты ён самы галоўны і правадыр усіх бандытаў, што паляць маёнткі, але-ж цяпер папаўся.

І цераз некалькі хвілін Язэп разам з іншымі апынуўся ля старастывай хаты.

Доўга яшчэ чуліся крыкі разьюшаных жандараў, да паўночы вялі сьледства над арыштаванымі, але урэшце і самі мабыць замарыліся.

— Загнаць усіх у лазьню, і паставіць добрую варту, каб не уцяклі, — прыказаў ахвіцэр.

— А цяпер давай вячэраць, умарыліся мы вельмі з гэтымі бандытамі, маем цяпер права на адпачынак.

Хутка ўся кампанія перапіўшыся спала ў хаце і толькі п'яны храп вынасіўся аж на вуліцу.

А ў гэты час на сяле, як рокат морскай хвалі ціханька гудзеў народ, сумна зьбіраліся дзядзькі і жвава абгаварывалі ўсе сягоньняшнія падзеі.

Самі сьціскаліся кулакі, помстаю, адвагаю блішчэлі іх вочы. Адвечная крыўда так уелася ў вантробы, што цярпець болей немагчыма.

Ціха ў стараставаі хаце... Ціха ў лазьне, дзе сядзяць ахвяры жандарскага зьдзеку. І толькі постаці двох вартаўнікоў ля лазьні напаміналі народу аб помсьце за векавечныя зьдзекі.

У цемры начы прабіраецца па загуменьням вёскі хаваючыся ў цяню, грамада хлапцоў. Шэрыя іх сьвіткі як бы зьліліся з плотам каля якога яны прадзіраюцца адзін за адным.

На перадзе Рыгор. Моцна але спакойна і раўнамерна б'ецца сэрца. Адвага гарыць у вачох, жаданьне помсты паліць грудзі, рука моцна сьціскае верную абразанку.

Вось і хата Язэпава.

— Стой, хлопцы! ня выходзь пакуль не паклічу, —прашаптаў да грамады Рыгор, і забраўшы Янку, крадучыся пабраўся ў хату, дзе суседзі ўжо улажыўшы Агату, прыводзілі яе ў прытомнасьць.

Прачнуўшыся, старая з горкімі сьлязьмі апавядала як білі Язэпа, як пабралі хлапцоў, як зьдзекаваліся над імі, як зьнеadmin важылі яе старую, калі заступілася за роднага сына.

Насупіўшысь слухаў Рыгор апавяданьне. Яго рукі, прывыкшыя ўладаць молатам у кузьні, да болі сьціскалі пальцы. Востры погляд яго нічога добрага ня абяцаў таму, хто выклікаў на барацьбу, на помсту яго, шчырага сына працоўнай Беларусі.

— Супакойся цётка! Язэпа мы вызвалім і за зьдзекі над безабароннымі мы жорстка памсьцімся. Паны пазнаюць сілу і моц нашага гневу. Пойдзем, Янка!

.... Абыйшлі ўсю вуліцу. Кругом прыціхла як, перад бураю. Ціха ў старастаўай хаце і толькі перад лазьней, як ліхтары стаяць на варце салдаты.

Усё аглядзеў, як добры гаспадар абмяркаваў Рыгор усё і шпаркім крокам вярнуўся да хлапцоў.

А цераз поўгадзіны сталбом вагню занялася старасьціна хата, калом падпёртыя дзьверы ня пушчалі падгуляўшых панкоў ... Крык.... Лямант.... Стрэл.... адзін, другі,... яшчэ і...

Язэп з усімі хлапцамі вызвалены, моцна паціскаюць рукі, вітаюць за вызваленьне і тут жа паўстае пытаньне, як быць далей?

На пажар у незабаве зьбегалася ўся вёска.

Яшчэ чуць былі енкі зачыненых жандараў, але ніводзін не крануўся, каб адчыніць дзьверы.

Хата згарэла.

Язэп з Грыгорам доўга сядзелі на прызьбе, доўга абгаварывалі пытаньне, што рабіць далей, бо заўтра прыедуць іншыя і зноў такія-ж самыя штукі пачнуцца з яшчэ горшымі вынікамі.

— Няма нам цяпер другога шляху акрамя барацьбы, упартай, страшнай барацьбы, за вызваленьне бацькаўшчыны. Досыць цярпець батагі паноў, толькі на свае сілы спадзявайся, сабе свабоду самі адваюем.

І яшчэ ня ўзыйшло сонейка, яшчэ ня прыгрэла сваімі праменьнямі роднай зямелькі, як выйшоў з Лябёд, атрад партызанаў і ў занебаве павярнуўшы да лесу, схаваўся ў шэрай імгле.

А цераз дзень згарэў палац Залескіх, на другую ночку разагналі паліцэйскі пастарунак. Загрымеў Рыгор па ваколіцам. Рыгор—Каваль гэта імя

наводзіла спалох на пана, шляхціца, поліцыянта, салдата.

„Рыгор—Коваль“ быў родным братам мужыку імя яго выклікала гонар, аб ім складалі казкі.




...як выйшаў з Лябёд атрад партызанаў...

— А ён, як маланка лётаў з атрадам з месца на месца. Нідзе ня было спакою ад яго цяжкай рукі польскім панам.

Усюды чуцен быў яго заклік.

„Беларусь, прачынайся!“

І гэты заклік на бацькаўшчыне нашай усё глыбей і глыбей зававарушыў працоўныя сярмяжныя масы.

Падабед Язэп.

# Маладая Беларусь.

Адналькова: і вечар і рань вітаю,
і каскадам бурлівасьці буйнай ліюся:
ня убачыць бабулькаю мне на растаі
маладое маёй Беларусі.

Ня убачу—і бачыць ня хочу;
чорнабровай хай будзе дзяўчынай—
пазіраць буду ў чорныя вочы:
хай паземы душы мне адчыняць.

Беларусь, што цяперка сівою,
я магу толькі ў песьні успомніць,
і схіліцца ніжэй галавою,
калі ставяць гранітны ёй помнік.

Сёньня начай усходзе сонца,
сёньня песьня зьвініць,—ня моўкне!
Рэволюцыі век—комсамольцам.
Беларусь нашых дзён—комсамолка.

Незабыць Скарыны ад старой мне,
незабудзен Кастусь Каліноўскі:
бор душы рэха зайцам пройме,
калі пошчак кране адгалоскам!

Там, дзе лялы былі, новы лес вырастае.
Нёмнам шпарка ў дуброву вякоў палюся...
ня убачыць бабулькаю мне на растаі
маладое маёй Беларусі! .

Крапіва.

# Будуйце лазьні.

Беларус па вушы гразьне,
Але ў вёсках Беларусі
Днём
З агнем
Ні воднай лазьні
Не знайшоў-бы нават мусіць.

Ад Барысава да Слуцку
(аж прызнацца нек нялоўка)
Усе прывыклі не па людзку
Сяк—так боўтацца ў начоўках.
Сяк—так дзядзька плечы й грудзі
Папалам памые з горам,
Але далей кажа—«будзе»
Разьдзявацца, бачыш. сорам.
Нават людзі ёсьць такія,
Што другую палавіну
Ім хто-небудзь толькі мые,
Як кладзе у дамавіну.
Так, як кветкі, маладзіцы
Тут страчаюцца парою,
Але ніжэй паясьніцы
Абрасьлі, як ёсьць, карою..
Болей лазьняў, больш здароўя,
Гразь-жа нам нясе хваробу.
Дык будуйце-ж! Клічу зноў я,
Хоць адну на тую спробу.

Алесь Карачун.

* * *

Паравоз разкудравіўшы дым
Абшар рэжа нязьмераны воку.
Усе навокал вітаецца з ім:
Поле й лес, што стаіць недалёка.
Па жалезе жалеза скрыгоча,
Чуцен скрогат і лязг ланцугоў.
Навокал яго вецер рагоча
Даляцеўшы з суседніх лугоў.
Раскінуўшы белыя косы,
Ты куды так ляціш, паравоз,—
Ці ня ў вёску сьпяшыш на пакосы,
Разухабіць апошні пракос?
Звон малінавы косаў ад раньня
Будзіць соннае мора травы,
Сон ночы зьнікае ў тумане,
Ловіць рэха гушчар баравы.

Падабед Язэп

# Маруся—студэнтка КомВУЗа.

Нашы дні нам шляхоў ня звузяць
і не пераломяць струн, што зьвіняць.
Ой, Маруся—студэнтка КомВУЗа
і дачка русакудрага дня!

Ад дуброў і ад сельскай ячэйкі
ты прышла з цёмнай сіньню вачэй.
Па трамвайным ізогнутых рэйках
водар ніў беларускіх пячэ...

На асфальт перазвонамі сосен
ты рассыпала шопат трысьця...
Знаю добра: ты любіш восень
і ня менш—кармазынавы сьцяг.

* *
*

Былі дні — працавала з матыкай
і расаду палола сама,
а сяголньня — ўжо гордай партыйкай
ты прысела да навукі гармат.

* *
*

Нашы дні нам шляхоў ня звузяць
і не пераломяць струн, што зьвіняць.
Ой, Маруся—студэнтка КомВУЗа
і дачка русакудрага дня!

Не адна, не адна ты такая—
сотні гэткіх паслалі палі.
Песьня волі зарою лунае,
пеніць радасьць пунсовы наліў

І я веру, што заўтра Маруся
заквітнее маліпай між ніў...
Шлю паклон маладой Беларусі,
заклікаю вірлівыя дні!

Карачун Алесь.

# Завоёванае.

I.

— Заўтра, абавязкова заўтра еду. А вы, матуля, тут ня сумуйце, жыў буду—вярнуся. Няма чаго, хлеба я цяпер зарабіў, хопіць з вас надоўга, а там відней будзе:—прагаварыў Костусь—высокі белакуры хлапец.

— Што-ж, папрацаваў я на ўсіх, ня было лёгка ні ў пана Ціханавецкага, ні ў Данілы Задзіракі, ні ў Еселя-арэндатара. Пайду цяпер бараніць зямлю і волю, мо' хоць потым лепш будзе.

Альжбета 50-цёх гадовая кабеціна, седзячы ў ражку стала на лаве, ўсхліпывала сіплым голасам.

Горкія мацярынскія сьлёзы каціліся з заплаканых вачэй. Колькі гаротнае яе жыцьцё папіла гэтых сьлёз. І яшчэ цяпер яна плакала, не па тым, што сын яе йдзе заўтра ў бальшавікі, а па тым, што гэта яе гаротнае дзіцё многа перанесла крыўды і зьдзеку ад чужых людзей. Бараніць ня было каму, застаўся бяз бацькі з 10 гадоў.

Сьлёзы мацярынскія, ці раз яны глыбока ранілі пачуцьці Костуся, а яшчэ цяпер, мо' ў апошні раз неяк асабліва, нібы шыпшыньнікам калолі ў грудзёх. Надзея, толькі адна надзея на лепшае будучае панавала ў ім.

* * *

Травы зялёнага луга шумелі. Мёдам пахлі кветкі. Песьні птушак разьліваліся гулам званочкаў срэбраных. Сонца гарачае раніцы шоўковае мора травы цалавала.

Ішоў Костусь задумёны, вочы яго блакітныя га-

рэлі агнём надзвычайным. За плячыма белы мяшочак туга набіты рэчамі.

— Чаму ты змоўкла, Зося, хіба ня рада, што я праз некалькі дзён чырвонгармеец?

— Чаму я не рэда, даражэнькі, я толькі таму ня рада, што мяне там ня будзе, што мы ня будзем разам.

Нічога, ужо хутка вайна скончыцца, застаўся адзін фронт з палякамі. Вярнуся і тагды зажывём, тагды назаўсёды будзем разам з табою, а цяпер, цяпер рашучы момант, цяпер калі аб сабе думаць, няма чаго сядзець склаўшы рукі.

— Глядзі, Зося, я матку адну пакінуў, дапамажы ёй калі трэба будзе.

Не заўважылі абое, як вёска ад іх схавалася за ўзгорак.

— Зося, ты вярніся, цябе чакаюць дома, а я шпарчэй пайду, каб не спазьніца да цягніка.

Гарачае сонца пякло ўздымаючыся вышэй і вышэй.

— Ну, бывай, Зося! жыві здарова, не забывай парабка—Костуся.

— Ніколі, ніколі. Хутчэй вяртайся, я буду чакаць цябе.

Папрашчаліся шчыра, шчыра. А сонца цалавала і галубіла іх. Зося зьняла хустачку з галавы, разсыпаліся яе шаўкавістыя кудры па плячох і грудзёх, махнула на разьвітаньне. Аглянуўся Костусь, зьняў шапку і махнуў да сябе.

Горача. Разсьцягнуў каўнер зрэбнае рубашкі, цячэ па жылах пружынных моц, стукае ў вольных грудзёх сіла. І шпарка-шпарка зашагаў па лузе, а луг ліе свой водар на абшары.

Вышаў на палеткі. Дарожка зігзагамі нівы абвівае, ідзе і любуеца прыгожасьцю збожжа.

Вось і вагзал Народу цьма-цьмушчая. Чырвонаармейцы, жанкі з клумкамі, мужчыны: некаторыя з іх, разглядаючы куткі, пахаджвалі, некаторыя сядзелі на кучы зложаных шпал.

Праз гадзіну ўжо Костусь сядзеў у палуразьбітым вагоне. Другіх пасажыраў у ім ня было. Палажыўшы на падлогу мяшочак, ён падышоў да вакна і пусьціў свае вочы ў даль. Думы, розныя думы... Успомніў як служыў у пана, ды й прывозіў яго на гэты жа самы вагзал, успомніў мінулыя гады.

— Здаецца як цяпер-ўсё было. Дзе-ж забудзёцца чалавекам тое гора, якое вынесена на ўласных плячох. Перанесена шмат яго і яно вось цяпер просіць думку і сумленьне ісьці змагацца супроць яго.

На рамцы вакна крывымі літарамі было напісана: „хто ня спэкулянтнічае—той ня лопае"

Костусь прачытаў надпіс і ўспомніў міраедаў, ды шкурадзёраў сваёй вёскі.

Мэрам выкінуты, прарваўшыйся грэбляй, вялізны бушуючы вал вады, з вагзалу выбеглі пасажыры. Штурхачыся, зьбіваючы адзін другога з ног, з крыкам і лаянкай атакавалі вагон.

Калі ўся суматоха прайшла і кожны з пасажыраў сеў на адшуканае месца, побач з Костусем сядзеў вайсковы. Брызэнтавая яго шапка была зьбіта на патыліцу, твар быў потны і ўсхвалёваны, да шырокага лобу прыліпла пасма рыжых валасоў.

Скандал! Вакол безпарадак і хаос.

Костусь пільна ўглядаўся ў твар суседа.

Прыціснуты ў куток насупроць чалавек у акулярах і старым вынашаным капялюшы агідліва прамармытаў!—Чаму дзівіцца? Уся Расея ў безпарадку.

Сусед Костуся выпрастаўся, кінуў касы погляд і

адказаў: — Ну, гэта паложым... Нельга так ставіць пытаньне.

Чалавек у акулярах націснуў на лоб капялюш і змоўк.

Аднекуль з-за вагонаў забляяў трэйці званок. Цягнік цяжка ўздыхнуў, зрушыўся, колы зашчоўкалі рэдкім, потым часьцейшым і часьцейшым стукам.

У вакно вагона багровы сьвет заходзячага сонца ліў патухаючае золата. Ніткі праменьняў цяклі па палічках, твары пасажыраў кволай ценьню гулялі на працівулеглай сьцяне.

— Таварыш, вы далёка едзеце? — спытаў вайсковы Костуся.

— У Гомель, — з ахвотай адказаў Костусь.

— Значыць вы мне папутчык, я еду з камандзіроўкі ў сваю часьць.

З далейшай гутаркі Костусь даведаўся, што гэта камандзір N-скага палка, прозьвішча яго Віхровіч.

* * *

Губэрнскі вайсковы комісарыят накіраваў Костуся ў N-скі полк, камандзірам якога быў Віхровіч. І праз месяцы паўтары Костусь, навучышыся вайсковай справе, ехаў з сваім палком на польскі фронт — на Бярэзіну.

Віхровічу Костусь вельмі падабаўся.

— Ты, брат, хоць і нядаўна ў нас, але сваёю прыкладнасьцю можаш служыць нават некаторым старым чырвонаармейцам. Спадзяюся, што ў час змаганьня на фронце ты таксама будзеш з першых: — гаварыў часта камандзір Костусю.

Толькі заняў полк лінію, зрушылі ў наступленьне. Была цёплая ліпнёвая ноч. Пасьля доўгае перастрэлкі ў паветры пахла порахам. Сакаталі кулямё-

ты. Чуліся енкі раненых. Між іх, адбіўшыся ад сваіх Костусь, чуў нейкі знаёмы стогн. Кінуўся ў адзін, у другі бок і енк чуцен лепш.

Нечаканае спыніла раптам Костуся... Каля куста ядлоўцу ляжаў ранены Віхровіч.

— Ну, як там?—спытаў ён сіплым голасам—ці адбілі белых?

— Так, атбілі! Толькі, і нашых напэўна шмат лягло:—упэўнена адказаў Костусь.

У запале настрою Костусь падхапіў раненага Віхровіча і данёс да бліжэйшага санітарнага пункту.

— Ачунявайце, тав. камандзір, хутчэй, справа вас чакае, хоць вы шмат зрабілі ня толькі ў нас, але як я чуў і там на заводзе, дзе вы раней працавалі.

II

Дзень за днём шпарка беглі і выносілі на сваіх сьпінах гістарычныя здарэньні. Костусь вярнуўся ў сваю вёску, калі разбураная старонка мела шмат дасягненьняў, калі на скопаных загонах каласілася вольнай радасьцю сялянскія ўраджаі, бо ён з арміі пашоўшы папрацаваў гады паўтара на заводзе. Вярнуўся комуністам і Зосю комсамолкай застаў.

Многа чаго новага адбылося ў вёсцы. Хата Костуся як і раней пакрывіўшыся. Матку не застаў, памёрла. Агарод зарос(шы травою ня ласкава спаткаў яго. Ня сумуе, бярэцца за працу.

Якраз у гэты час вёска на пасёлкі пераходзіла, абрэзку ў заможных утваралі. Адбываўся сход за сходам. Абгаваравалі сяляне сваё жыцьце. Ровам раўлі кулакі, цешылася бедната. Атрымаў ад абрэзкі зямлі і Костусь, узяўся за гаспадарку. Лесу далі на будынкі, хату паставіў, каня нажыў. Не хапала першымі часамі насеньня--пазычаў у коопэратыве, ў комітэце ўзаемадапамогі.

*
* *

Вышлі пад вечар з хаты-чытальні хлопцы ды дзяўчата, ідуць, песьні сьпяваюць. Сьвята было—сьвяткавалі дзень вызваленьнь Беларусі ад паноў.

І Костусь пад вечар вышоў на луг пагуляць, на той самы, які калісьці пану касіў, па якім Зоська праводзіла яго ў армію.

Лёгкі ветрых калыхаў шаўкавістыя травы: абыйме іх, да зямлі прысланіць і пакоціцца зялёнай хваляй далей.

Падышла Зоська, сарвала кветачку і кінула ў твар Костусю.

— Я думала ты ня прыдзеш?..

Села побач і пакацілася гутарка бурлівай рэчкай.

—Эх, Зося, люблю жыцьцё, люблю гэтыя абшары люблю як б'ецца сэрца заводу. Зося! Ці чуеш, —жыцьцё люблю на фронце, за яго змагаўся, будзем разам з табою з табой будаваць гэта новае жыцьцё.

А травы зялёнага луга шумелі расістыя, сонца на лес апускалася, цёк тумам над рэчкаю.

III

Любіў Костусь жыцьце, любіў працу, любіў раскінутыя каля гаю пасёлкі такіх жа самых беднякоў, як і сам.

За гаспадаркай сачыў добра, гаспадыніла ўважліва ў яго і Зоська.

Працуюць у дзень шчыра, а ў вечары ў хату-чытальню, ў клюб ідуць. Зоська з жанчынамі працавала, а Костусь старшынёю сельсавету быў. Скончаць бывала працу, кніжкі чытаюць, гаспадарыць вучацца.

Добра клапаціўся аб дабрабыце сельсавету Костусь. Трактар набылі, малочную арцель арганізавалі. Добра зажылі пасёлкаўцы. Любілі і слухалі ва ўсім Костуся.

— Костусь-парабак але гаспадар цяпер, можа кіраваць ня толькі сваёй гаспадаркай, а нават сельсаветам.

За працай усіх устаноў добра наглядаў, даваў парады, дапамагаў. Паставілі ў вёсцы радыё.

Адна думка яшчэ мучыла Костуся:—пабудаваць электрычную станцыю.

Зьбяруцца бывала сяляне, а сярод іх Костусь расказвае, як пабудаваць яе. Слухаюць, цішыня, толькі подых новым жыцьцём Костусевых слоў калыша настрой сялян і стукоча сэрца яго дынамай станцыі.

**Клімавічы 13—15 сакавіка**
**1926 г.**

Н. Чубакоў.

## Мой дух у даль шыбае.

Хай гром грыміць! Хай бура стогне!
Сьмяртэльны сьпеў мяцель сьпявае.
Але ва мне нішто ня дрогне:
Мой дух бадзёры ў даль шыбае!

Мой дух бадзёры ў даль шыбае
Пад шумы сьпевы—акіяну,
І крок нястрымны ня спыняе,
Шыбае к сьветламу з туману.

Мой дух гарыць агнём уздыму,
Жадае шмат і шмат тварыць
І нібы моцным—моцным млынам
Усе благое пакруціць.

Я ў даль плыву на бурным моры,
На чоўне новых дум ідэй
І хутка выплыву ў прасторы
Вялікіх радасных падзей!..

Янка Міхневіч.

## З поэмы „ГАННА“

Ганна была ў пана за кухарку. Муж яе Сьцяпан пашоў у заработкі на шахты, цакінуўшы жонку і сына—Максімку.
Ня доўга працаваў ён на шахтах, пераехаў ў Пецярбург (цяперашні Ленінград) на завод „Пуцілаў“... Але вось пачалася японска-руская вайна. Голад прыціскаў рабочых. 9 студзеня 1905 г. рабочыя Пецярбургу пашлі да цара. Павёў іх правакатар Гапон.

### IV. Крывавая нядзеля.

А жыцьцё не маўчыць, як той камень,
Яно ў розныя гуслі сьпявае.
Захацелась крыві Мікалаю,
На вайну свой народ заклікае.

— Ці пя годзе ўжо слухацца цара?
— На асіну цара і пачоў!
І пашлі па Расеі пажары,
Палілася чалавечая кроў...
За заводам паўсталі заводы,
Усхваляваўся ўвесь Пецярбург.
— Хлеба дай! кажуць цару народы,
А цар сыпле ім пораху, куль.
Зчырванела «Дварцовая плажка»
І пакрылась крываваю плямай.
Толькі белыя сьцены, як госьця,
Мертвы труп віншавалі Сьцяпана.
Максім хлапец таты быў у пер'і,
Бацьку помніў з васьмі толькі год.
На Гапона казаў: «сволач! Шэльма!»
Чаму вёў ён пад кулі народ?!

V.

Двесяць год праляцелі хвілінай.
Загарэлась на нова зара.
У салдаты забралі Максіма,
А Максім разарваў-бы цара!
Толькі дасьці слухаці неба:
Паляцелі паны, за ім цар.
А Максіму, дык гэта і трэба,
Разьвярнуліся сілы гуляць!
Ня прышлось толькі доўга гуляці,
Пэўна бацькава шчасьце і ў сына;
Загубілі Максіма палякі,
Скатавала арла дэфэнзыва.
Асталася адна Ганула
І цяпер яшчэ жыва жабрачка,
Не забыла ні сына, ні мужа,
І цяперка па іх яшчэ плача...

Зяма Півавараў.

# ЖЫТА,

Расіца халодная мые іх раніцай,
А потым праменьнямі сонейка ліжа.
Вецер калыша, каласачак маніць
Заве іх бліжай і бліжай.

Нібы ціха гамоняць. Здаецца, тады
Іхную казку хацелі-б мы чуць.
Вецер калышыць, плывуць усё куды
Бяз меры, бяз канца плывуць.

Хутка, хутка пасьпеюць каласочкі
І жнейкі іх падажнуць...
Голыя будуць толькі палосачкі
Шэпту жыта ня будзем мы чуць.

Сьпевы жнеяк пачуюцца жвіўныя
У паветры будуць зьвінець,
А потым дажджы пальлюцца ліўнямі.
Як на двары будзе восень шумець.

В Радчанка.

## ЗАРА.

Азарылася зямля
Зарою новаю.
Апранулася яна
ў цьвет багровы.
Ой, ды ўсе ад зары
ўзварышыліся.
Ну, і птушкі ў бары
ажывіліся.
Стала весяла жыць...
песьні звонкія.
Жыцьцё ўперад бяжыць
і ў дагонку я!
Ой, сьвяці зара
па над вежамі,
Засьвяціць пара
ужо за межамі.
Там чакаюць зару,
Там чакаюць нас.
Аб'яднаць Беларусь
хутка прыдзе час!
Нашай вольнасьцю
Засьвяці там зара
Беларусь аб'яднаць
Ой, пара, пара!

Д. Раманёнак.

# Сяўцу асьветы.

Сей, сявец, зярнё асьветы
На папялішчы старых ніў:
Праменямі сьвятла сагрэты,
Тут захвалюе радасны наліў!

Перад табой шырока поле,
Яно глядзіць ужо ня тым:
Тут заарала нівы воля,
Прыгоны згінулі, як дым.

Няма тут жалю і прынукі,
Тут песьні радасьці пяюць.
Ральлю забытую, унукі
Інакшым плугам, бач, аруць.

Сьмялей-жа сей зярнё жывое,
У жывую грудзь зямлі сваёй.
Працуй, кахай, не, як чужое:
Тут працаваў і бацька твой!

Але ў бацькоў хварэлі рукі,
Тады слўпя цяжкой была.
Ня бачылі сьвятла з па-за прынукі,
Валілі ўсе, як на вала.

Ідзі ж, і сей—ральля жывая
Чакае ўжо цябе, ідзі!
І быць на славу ураджаю
На беларускай, роднае зямлі!



Аугіня Вігура.

# Пад праменьнямі гарачага сонца.

Горача пячэ сонца. Здаецца, зараз спаліць на вугаль. Ціха ў полі, толькі раз-по-разу разьліваецца густое стракатаньне конікаў.

Нудна Машы жаць у такую пару. Сагнецца яна, нарэжа поўную жменю буйнага жыта, адагнецца палажыць, потым яшчэ і яшчэ... Круцячы перавяслы аглядаецца па бакох, ці ня йдзе хто блізка. Няма нікога. Абрыдзела ёй маўчаць, зацягнула песьню, адну з тых жніўных, цягучых, якую заўсягды пяе наша вясковая дзяўчына, ў якой памінаецца і злая сьвякроў, і родная маці, і горкая доля яе.

Маша так удалася ў працу, што незаўважьла, як пачаў падыходзіць да яе малады хлапец Янка, які йшоў аднекуль з касою. Тагды толькі пачула, як ён палажыў ёй руку на плячо. Яна адразу спыніла песьню.

— Што, Маша, прызаўныла? — ласкава запытаў Янка, — ці замуж хочаш што пра сьвякроў наперад пяеш?

Маша пачырванела. Яна і засаромілася і вельмі рада была, што ўбачыла Янку. Падабаўся ён ёй больш за ўсіх вясковых хлапцоў. Быў ён спрытны, прыгожы, першы між сваіх таварышоў. На сходзе з сялянамі аб усім пагаворыць лепш, як хто другі. Быў ён комсамольцам і сябром сельсавету, усё каму толькі трэ' было ён растлумачваў усе непаразумленьні і не ясныя пытаньні. Разумны быў хлапец. Вось цяпер ён стаіць перад Машай, дзяржыць касу, каўнер разшпілены, сам загарэлы, а вочы так і паляць, як гэта яркае сонейка.

— Ну, дык скажы, Маша, чаго ты маўчыш, ці нудзішся чаго?

— Чаго-ж мне нудзіцца? — задорна адказала Маша — я цяпер шмат прапую, пяю песьні, а па хлопцах няма чаго нудзіцца.

Прагаварыўшы яна засьмяялася звонкім пераліўчатым сьмехам. Янка сеў каля яе на сноп.

— Ведаеш, Маша, даўно я зьбіраюся з табою аб аднэй рэчы пагаварыць, але ўсё неяк умовы недазваляюць, ну, а цяпер, скажу — тут нас нас ніхто непабачыць і не пачуе гэтае гутаркі.

Тон голасу Янкі зьдзівіў Машу, у ім яна пачула нешта асаблівае. Палажыла сярпок. Янка глядзеў прама ў твар.

— Можа гэта і разсьмяшыць цябе, Маша? — прагаварыў ён далей. — Ня буду я, ведаеш, крывіць свае думкі. Люблю я цябе, добрая ты дзяўчына, добрая будзеш і жонка. Дык калі ты, Маша, згодна, то мы з табой пажэнімся. Ты выбачай за тое, што можа я з нянацку гэта кажу табе, але я мысьлю, што ты разумееш мяне і скажаш адкрыта так, як я.

Маша не падымала вачэй. Ружовасьць пакрыла яе твар, моцна стукала сэрца. Яна ў пачатку яго гутаркі ўразумела аб чым ён будзе ёй казаць, ведала што гэта калі небудзь здарыцца, але ня сёньня, бо сёньня яна не рыхтавалася да такога выпадку.

Што я адкажу яму? — запытала ў думках яна сама сябе.

А Янка глядзеў на яе, любаваўся ёю і чакаў адказу.

Доўгая маўчаніна...

Потым Маша падняла хутка сваю галаву, у якую ўтаропіліся ясныя вочы Янкі і адказала проста, як сказаў ёй і Янка: — Я цябе так сама люблю.

Ен адразу як-бы не паверыў, але выраз яе твару сьведчыў, што гэта праўда. Порстка ўсхапіўшыся

Янка падбег да яе, абхапіў загарэлымі рукамі яе шыю і моцна пацалаваў яе.

— Ня трэба так, Янка, — адказала Маша. І абое, нібы спалохаўшыся гэтага, селі. Маша не магла зьвязаць сваіх думак, не магла ў іх разабрацца, бо беглі яны нібы абрыўкі нітак з клубка. Замуж... Якое гэта слова... Разам з Янкам... А як з вянцом? ён-жа комсамолец... Потым усміхнулася гэтым думкам, што як гэта яна, Маша, аб гэтым думае.

Успомніла выпадак, як ў іх вёсцы адна пара жыве не павянчаўшыся. Але гэта пара жыла неяк ня згодна і бабы ў вёсцы казалі, што гэта іх бог карае. Не, гэтага ня будзе з намі, мы будзем дружна жыць. Яна пастаралася адагнаць ад сябе ўсе ня добрыя думкі.

— Маша, я сёньня ўвечары да цябе зайду, пагавару з бацькамі — прагаварыў Янка. — Як сабе хочаш, я нічога ня маю супраць. Узяўшы касу Янка пашоў. Ступіўшы некалькі крокаў ён абярнуўся. Маша шчасьліва ўсьміхнулася яму і прагаварыла — да вечара, — і зноў узялася за працу.

Сонца шчодра паліла, блішчэла недалёка рэчка пад яе праменьнямі, полымем гарэла сэрца Машы. У адным баку чулася жніўная песьня, а з другога прыбліжалася белая хустачка яе маткі, якая несла полудзень Машы.

* * *

У гэты час Машы вельмі хацелася запяяць, падскочыць, закруціцца на постаці. Янка ўжо зусім яе, ён яе моцна кахае. Ну, што-ж, нічога будзе, калі й выйдзе так, толькі яе палохала, нібы сароміла адно: як яна аб гэтым раскажа бацькам; але тут-жа яна адразу нечакана падумала: — зробіць за мяне ўсё гэта сам Янка.

У гэты час падышла да яе маці. — Ну, дачушка, ідзі папалуднуем, пара ўжо, што ты так ухмілілася да гэтае работы? Будзем здаровы, то скончым, пажнём.

— Нияк ведаеш, мамка, як нагнулася да работы дык і ня хочацца адгінацца.

Праз некаторы час яны сядзелі пад трама састаўленымі снапкамі і абедалі.

— Ну, мамка, пара зноў за працу, — прагаварыла порстка Маша.

Узяліся зноў падганяць наперад загон.

Перад вечарам маці пашла двору раней упарадкаваць скаціну, прышоўшую з поля. У двары яна застала й бацьку Машы, які вярнуўся з касьбы.

Маша зноў засталася адна між жыта і снапоў. Любіла яна быць адна, асабліва ў гэты цёплы адвячорак, які кволым, цёплым ветрыкам абвяваў яе загарэлы твар.

Уся яна аддалася салодкім думкам, а ў вачну так і стаяў Янка.

Знасіла, саставіла нажатыя снапы ў мэндлікі і накіравалася двору. Пачынала цямнець. Сэрца яе палохліва стукала ад думак, што яе чакае ў сёняшні вечар.

У хаце яна застала Янку. Не памятавала, што яны там г варылі ў апошнюю хвіліну, толькі добра разабрала словы маткі: — маладая яна яшчэ, няхай-бы пагуляла. Гэтыя словы ня зусім падабаліся Машы і яна глядзела ў вочы Янку і нібы хацела сказаць — скажы Янка, што я згодна.

Доўга вялася гутарка, але потым амаль спынілася зусім словамі Машы: — Я згодна, бо Янка мне падабаецца.

Калі яна гэта прагаварыла настрой яе раптам

павысіўся, вярнулася бадзёрасьць, і яна цьвёрда вытрымала зьдзіўленыя ад нечаканасьці вочы маці.

* *
*

Праз месяц, калі з поля ўсе копы былі зьвезены, калі залатыя хвалі жыта зьмяніліся на жоўтае іржышча — тагды вясковая моладзь гуляла чырвонае вясельле комсамольца Янкі з Машай. Гэта першае зьявішча ў шэрым будзённым жыцьці вёскі. Вялізнае памяшканьне клюбу было паўнютка народу. Наперадзе, на першай лаўцы сядзелі бацькі Машы і Янкі. На сцэне за засланым чырвонай настольніцай сталом сядзелі Маша і Янка, а каля іх комсамольцы, прадстаўнікі партыйнага і комсамольскага райкомаў.

Прадстаўнікі горача віталі маладых з пажаданьнямі добрага жыцьця Усе словы прамоўцаў Маша ўпітывала ў свае думкі, кожнаму з іх надавала належную значнасьць.

Потым гаварыў Янка. Ен спыніўся на жыцьці сваёй вёскі, аб шляхох па якім павінна пайці моладзь, аб тым, што ў асабістае жыцьцё моладзь павінна уносіць новае, здаровае, карыснае для грамады.

У канцы свае прамовы сказаў што, ўся моладзь павінна цягнуць на новы шлях жыцьця сваю вёску. У канцы не сьцярпела выступіла і Маша, хоць яна перад грамадой і ніколі ня выступала, але гаварыла, што адчувала. Скончыла прамову і гучныя воплескі прысутных напоўнілі залю клюба.

С. Музыка.

Ахвярую Драмгуртку пры Саюзе
Друкароў Калінінщчыны.

# КУПАЛЬЛЕ.

**бытавая п'еса ў 3-х дзеях.***)

**Сымон**—рабочы, комсамолец; сам з вёскі, гадоў 22. Прыехаў пагасьціць да бацькоў.

**Пётра**—вясковы хлапец, комсамолец, друг Сымона.

**Ганка**—баявая, адважная дзяўчына, гадоў 20.

**Раман**, **Андрэй**, **Ляксей**, **Міхась**, **Ігнат** — таварышы Сымон і Пётры

**Зоська**, **Марыся**, **Алеся**, **Крыстына**, **Волька**, **Хімка** — вясковыя дзяўчаты

**Рыгор**—бацька Зоські, гадоў 45.

**Пракоп**—кулак, старшыня саюзу веруючых, гадоў 50

**Цыпрук**—яго сын, гадоў 25 „Франт“ улетку ходзіць у галёшах і ў капялюшы „панама“.

**Лявоніха**—баба-знахарка, гадоў 35-40.

*Рэч адбываецца увечар пад Івана Купалу.*

*) Першы раз была пастаўлена 21-га сакавіка 1926 г. Драмгуртком Друкарні.

## ДЗЕЯ І-я

(*Лясок блізь вёскі. Сонца ўжо на заходзе На сцэне сядзяць і плятуць вянкі Алеся, Хімка і Крыстына, пяючы песьню*)*.

Бяроза дзеванек гукала:
Хадзеце, дзеванькі, ў луг гуляць,
Зялёныя вяночкі завіваць.
Саўём вянкі мы на купальле,
На рэчку пусьцім варажыць, —
Дазнаемся з кім прыдзецца нам жыць.

АЛЕСЯ. — Вось гэтак заўсёды: умовіліся, а потым і чакай іх. Толькі зводзяць кожны раз.

ХІМКА. — А мы-хадзем, ня будзем чакаць.

КРЫСТЫНА. — Не, дзеванькі, трэба пачакаць. Мо' іх бацькі ня пушчаюць? Я тож, як зьбіралася сюды, дык матка ўсё па пятам хадзіла.

АЛЕСЯ. — Яно то і гэтак можа быць. (*за сцэнай чутны дзявочыя галасы*). Чакайце... здаецца вось і ідуць? (*крычыць*) Гэй, дзяўчаткі!.. сюды!... ау!...

КРЫСТЫНА. — Гэта Кастуся з Волькаю... (*увасходзяць дзяўчаты*).

АЛЕСЯ. — Чаму вы так доўга ня прыходзілі? Гэтулькі часу чакаем вас. А дзе іншыя? дзе Ганка, Зоська?...

ВОЛЬКА. — Я з Кастусяй ледзь з хаты ўцяклі. А Ганку Сьцяпанаву матка так адлупцавала, што ня ведаем ці прыдзе.

АЛЕСЯ. — Ай-яй! за што-ж?

ВОЛЬКА. — А за тое, што ў хаце ня хоча сядзець. Толькі Ганка хацела за дзьверы, а матка — за валасы яе ды давай лупцаваць: бадзяка ты, кажа, паршывая, лахта ты, кажа, нешчасьлівая, зноў з хаты

*) Усе мэлёдыі ў п'есе напісаны аўтарам. З прычыны тэхнічных умоў ноты ня можна было надрукаваць.

ідзеш, каб хлапцам на шыю чапляцца, ды авантуры вырабляць? Сядзі, кажа, мне ў хаце! бо і так ужо ўсе пальцамі тыкаюць: валацуга! Аўдо:ьцяв: дачка валачашчая! Ну, і зьбіла на горкае яблыка.

КРЫСТЫНА.—Зноў бедненькай папала. Не шанцуе дзяўчыне—пазаўчора адлупцавалі, сягоньня зноў. Не, каб мне гэтак было, далібог, уцякла-бы з хаты.

ХІМКА.—Куды?

КРЫСТЫНА.—А ўжо куды-б вочы панесьлі.

АЛЕСЯ.—Не далёка-б яны цябе занесьлі, як раз да сваёй хаты. Вось ляпей скажы—за вошта-ж Ганцы пазаўчора дасталося? Чаму я нічога ня чула аб гэтым?

КРЫСТЫНА.—Хіба-ж ня чула? Памятаеце, калі да нас з воласьці прыяжджалі гэтыя, як іх?... ну... шэ... шэфы, ці што... і вечарынку наладзілі з прадстаўленьнем? Ну, Ганка, як пашла на гэтую вечарынку, дык толькі на другі дзень к вечару дамоў прышла. Ну, тут матка і учапілася ёй у валасы. Б'е і кляне на чым сьвет стаіць. Толькі Ганка замест таго, каб плакаць—бац! матцы гэткія словы: „хоць забейце, кажа, мяне, а ўсёж не пераробіце, ўсё роўна ў касамол пайду і буду жыць па-новаму". Матка ад гэтых слоў ажна самлела.

ДЗЯЎЧАТЫ.—Няўжо гэтак матцы і сказала? Лжэш, пэўне, ты?

КРЫСТЫНА.—Навошта мне лгаць? Запытайцеся ў Зоські, яна таксама чула.

АЛЕСЯ.—Што праўда, то праўда: Ганка за словам у кішэню не палезе. (*глянуўшы ў бок*) Во! нэндза наш ідзе

ДЗЯЎЧАТЫ.—(*у вадзін голас*) Цыпрук?

АЛЕСЯ.—Ён самы. Гляньце, як галоў да гары задраў і нешта пад нос мармоча.

(*Увах Цыпрўк, пяючы*)

ЦЫПРУК. Бацька, матка згоду далі,
Каб хутчэй жаніўся я.
Ці-лі, ці-лі, ці-лі ці-лі!
Каб хутчэй жаніўся я.
Ўжо нявесту на прыкмеце
Маю, маю даўно я.
Ці-лі, ці-лі і г. д.
Зоська кветачка-цукерак
Дастанецца мне... ой-ёй!..
Ой-ёй, ой-ёй, ой-ёй, ой-ёй!
Дастанецца мне... ой-ёй!..

ДЗЯЎЧАТЫ.—Ой-ёй! Вушы, вушы прышчамыў.

ЦЫПРУК.—А, і вы тут! Якія вушы?

АЛЕСЯ—Ды нашы. Мысьліла, што паадвальваюцца ад твайго пяяньня.

ЦЫПРУК.—Э! шмат вы разумееце ў гэтым. Вось лепш скажыце, ці добрая пара будзе з нас—Зоська ды я?

АЛЕСЯ—Яшчэ невядома, ці будзеш ты з ёю ў пары. Пачакай, вось калі сягоньня вашы вянкі сыйдуцца, то тады іншая рэч.

ЦЫПРУК —Напэўне сыйдуцца, я нават ўжо прысьніў, што быццам з Зоськай біўся, значыцца прыб'ецца.

ХІМКА.—А мо' і атаб'ецца.

АЛЕСЯ.—Ведаеш, Цыпрук, што?—Схадзі на сяло і гані сюды дзяўчат, някай хутчэй прыходзяць. А то гэтак гульбішча наша можа растроіцца. Цямнець пачынае.

ЦЫПРУК.—Добра я зараз... (*ідзе*)

КРЫСТЫНА.—І гармонік свой вазьмі.

ЦЫПРУК.—Добра. (*выходзіць напяваючы: „Зоська кветачак-цукерак".*)

АЛЕСЯ. — Ну, і дурны! мысьліць, калі з радні багатай, дык кожная з нас так і пабяжыць за ім. Лепшыя хлапцы ёсьць. Возьмем хаця-бы Сымона, Пётру, Ляксея, ды любы з хлапцоў ляпей за яго.

ХІМКА. - Але, Сымон важны хлапец. Нешта на Зоську ўсё паглядае мілым вокам. Ох, каб не адбіў ён яе ад Цыпрука?

КРЫСТЫНА. - І Зоська на яго паглядае, ды толькі ня йдзе на лад у іх, як сыйдуцца разам—сварыцца пачынаюць.

ХІМКА. - Хто любіцца — той і чубіцца, — старая прыказка. А я больш чым пэўна, што Зоська за Цыпрука ня пойдзе цяпер.

АЛЕСЯ. - Чаму не? Гэтак яе бацькі адразу і аддадуць за Сымона? чакай!

ХІМКА. - Аддадуць, Сымон ляпей за Цыпрука.

АЛЕСЯ - Ляпей ды бядней, Зоськін бацька ня гэткага зяця мае на ўвазе.

КРЫСТЫНА. - Але якая карысьць яму будзе ад Цыпруковага багацьця?

АЛЕСЯ. - Дачцы ляпей будзе жыць.

КРЫСТЫНА. - З дурным мужам ляпей? Гультай, абібок! Сам нічога ня можа і ня будзе рабіць, а жонку прымусіць. Не, я-б ніколі за гэткага не пайшла-бы, каб мне трапляўся такі, як Сымон.

ВОЛЬКА. (*кончыўшы плясьці вянок*) Ды годзі вам. Якое нам дзела за каго Зоська пойдзе? Вось ляпей давайце раскладзем цяпло дый песьню запяем. На вагонь ды на песьню хутчэй прыдуць, зайздрасьць возьме.

ДЗЯЎЧАТЫ. - Давайце, запяем!

(*пяюць і зьбіраюць гальлё, потым запальваюць*)

Ой, ляціце, шэры гусі,
На маю радзіну (*2 раза*)

Не кажыце, шэры гусі,
Што я замужам гарую (*2 раза*)
А кажыце, шэры гусі,
Што я замужам паную (*2 раза*)

(*здалёку чутна адказная песьня падыходзячых дзяўчат*).

Таемнасьцю вабяць гушчары лясныя
Дзявочае сэрца к сабе.
Дуплістыя дрэвы, сьцёжкі гліхія, —
Лесу вялікага гукі начныя
Ў сэрцы дзяўчыны
Дзіўную песьню пяе

Гу-гу-гу!..
Га-га-га!
А-у!..
А-у!
Дзіўную песьню пяе.

ВОЛЬКА - Вось, ці не казала я? Ідуць. (*гукае*) Хутчэй сюды, дзеванькі!

(*Увах. Зоська, Марыся*)

АЛЕСЯ. - Ох, як вы спазьніліся, дзяўчаткі. Мы ўжо хацелі разыходзіцца, мысьлілі, што ня прыдзеце.

МАРЫСЯ. - З хаты ня пушчалі, ледзь-ледзь вырваліся.

ЗОСЬКА. - Добра вам, падружачкі, — вы зусім вольныя людзі А мне. з таго часу, як бацька намысьліўся аддаць мяне замуж, жыцьця ў хаце нямашака. Пайсьці пагуляць на сяло — ня можна, каб, барані божа, не памысьлілі чаго благога, - значыць сядзі ў хаце. З падружанкамі—дзяўчатамі і то нельга, бо ты кажа бацька, хоць ты яшчэ і дзяўчына, але ўжо і ня зусім... на выляце ўжо, — значыць зноў сядзі ў хаце і вось гэтак заўсёды. Нават і цяпер, каб бацька ня выбраўся ў воласьць, ня быць-бы мне тутака.

КРЫСТЫНА. - Ды што? Казаць? І нам ня лёгка з хаты вырвацца.

АЛЕСЯ — Ну, дзяўчаткі, што мы цяпер пачнем рабіць? Усе ўжо сабраліся, — Ганка, мабыць толькі ня прыдзе...

КРЫСТЫНА — (*глянуўшы ў бок*) А во, і Ганка віхром ляціць...

ДЗЯЎЧАТЫ — Ды ну? Але, але...

МАРЫСЯ — Джгае, быццам, за ёй нячысьцік гоніцца.

ЗОСЬКА — А напэўна дык гэта — матка яе.

(*убягае Ганка*)

ДЗЯЎЧАТЫ — Што з табою, Ганка? Ці ня матка за табою гналася?

ГАНКА — Ды не. Гэта я так да вас сьпяшалася. Матка ў хлеў пашла кароу даіць, а я — праз плот і давай бог ногі.

МАРЫСЯ — Ай - да Ганка, маладзец. Ты ў нас каго хочаш ашукаеш, Адно толькі кепска, што твая матка цябе поедам есьць.

ГАНКА (*задорна*) Глупства! (*пяе*)

Нікаго я не баюся,
Ні прад кім сьпіны ня гну.
Досьць дзяўчатам жыць ў цямноце,
Новы быт ўвадзіць пачну.

Усе. Трэба, трэба і дзяўчаці
Сьвет шырокі паказаці.

ГАНКА Годзі ночкі каратаці
Ў цёмнай хаце, без вагню,
Годзі ўжо ўздыхаць і марыць
Аб прыгожым жаніху.

Усе. Трэба, трэба і дзяўчаці
Сьвет шырокі паказаці.

ГАНКА. Кажуць дзеўцы толькі замуж
Шлях адзін ёй у жыцьці.
Прабачайце, хто так мысьліць,
Ня горш за хлопцаў будзем мы.

У с е Трэба, трэба і дзяўчаці
Сьвет шырокі паказаці.

ГАНКА І для нас найдзецца праца
Апрыч пражы, нітак, голкі...
Працы ў вёсцы, сельсавеце,
Шмат там ёсьць для комсамолкі.

У с е Трэба, трэба і дзяўчаці
Сьвет шырокі паказаці.

ГАНКА Матка сварыцца, злуецца:—
Па старому, каб ўсё жыць,
„Усё роўна комісаршай,
Кажа,—ў сьне табе ня быць“

У с е Трэба, трэба і дзяўчаці
Сьвет шырокі паказаці

ГАНКА Але глупства! ня дасьць рады,
Ў комсамол я паступлю.
Сьцеражысь, тады старыя!
Новы быт ўвадзіць пачну.

У с е. Сьцеражысь, тады старыя!
Новы ўводзіць быт пачнем.

ЗОСЬКА — А цяпер, дзеванькі, давайце зьбіраць кветкі і траву. Трэба паваражыць — хто каму будзе суджаным.

ГАНКА — Няпраўда ўсё гэта. А да таго ты ўжо ведаеш свайго суджанага.

ЗОСЬКА (*са ўздыхам*) Ведаю... Але, усё-ж...

МАРЫСЯ — Можа і ня праўда, але ўсё-ж цікава. Пойдзем, дзяўчаткі, зьбіраць.

ДЗЯЎЧАТЫ — Пойдзем, пойдзем!..

(*ідуць; насустрэч з лесу выходзіць знахарка — Лявоніха.*

*Яна яшчэ жанчына здаровая, але сумысьле горбіцца, каб выглядаць больш старэйшай Ідзе з кіем; абвешана рознымі травамі, кветкамі, карэчнямі)*

ГАНКА — А! бабка-знахарка... Вось хто нам ўсё раскажа, як і што?.. Ня трэба і ў лес хадзіць.

ЛЯВОНІХА — Аб чым вам расказаць, кветачкі вясновыя?

ЗОСЬКА — Мы вось ідзем кветкі ды траву зьбіраць, каб паваражыць каму які лёс будзе, толькі добра ня ведаем, якія кветкі і якая трава патрэбна.

МАРЫСЯ — Я чула, што трэба трынаццаць красачак і гэтулькі травінак.

ДЗЯЎЧАТЫ — Цётачка, скажы, так ці не?

ЛЯВОНІХА — А дасьцё пакавалачку сала? — ўсё скажу.

ДЗЯЎЧАТКІ — Дамо, дамо! Кажы!

ЛЯВОНІХА — Дык слухайце. Колькі кветак альбо травы трэба назьбіраць вам, — залежыць ад таго, як вы хочаце варажыць.

ДЗЯЎЧАТЫ Пад галоў класьці! Пад галоў!..

ЛЯВОНІХА — Калі пад галаву, значыць, касьці, то трэба назьбіраць трынаццаць розных траў: ліст папараці, лісток травы-сьмяхуньні, лісток крапівы-пякучкі, лісток явару, асокі, багатуньні.

ГАНКА — Э! дзе нам гэтулькі назьбіраць? Калі мы ўсіх гэтых травак і ня ведаем. Нічога ня выйдзе з гэтага, дзеванькі.

ЛЯВОНІХА — Ці-ж гэта многа? Вось калі-б сорак траў шукалі... Вось тады папаходзілі.-бы

МАРЫСЯ — А якія-ж гэта сорак траў?

ЛЯВОНІХА — Шмат іх там...

ГАНКА — Чакай, бабка! ты па парадку раскажы: і аб дванаццацёх, і аб сараку, ды што, ды як, а то ідзем у лес і ня ведаем пашто, куды?

ЛЯВОНІХА. — А калі ня ведаеш, дык не хадзі.

ГАНКА. — (*іранічна*). Калі-ж вельмі хочацца ведаць, які жаніх будзе

ЛЯВОНІХА. — Які? А мабыць такі, што выб'е ўвесь дур табе з галавы.

ГАНКА. — Ой, ці выб'е толькі?

ЛЯВОНІХА. — Выб'е, як лупцаваць пачне.

ГАНКА. — Калі муж мяне толькі кране хоць пальцам — заб'ю яго, атручу, ці зарэжу,

ЛЯВОНІХА. — Што ты? што ты гаворыш? Апамятайся! Бог з табою, перажагнайся хутчэй сьвятым крыжам. Грэх які!

ГАНКА. — Грэх, ня грэх, а біць сябе не пазволю. Ды і Сымон кажа, што ўсе грахі гэтыя папы выдумалі, каб трымаць у сваіх руках людзей.

ЗОСЬКА. — Кінь, Ганка, не перашкаджай. Цётачка, дык раскажыце, дзе шукаць гэтую траву і што з ёй рабіць?

ЛЯВОНІХА. — Ды што рабіць? нарвеце, значыцца, прынясеце дамоў і пакладзіце пад падушку, як спаць будзеце класьціся,

ЗОСЬКА. — І што будзе?

ЛЯВОНІХА. — У сьне пабачыце суджанага свайго.

ГАНКА. — Гэта яшчэ бабка на двое варажыла. Я вось у мінулым годзе палажыла пад падушку траву, ну, мысьліла, жаніха пабачу, а пабачыла Куцага нашага і то не ўва сьне, а сапраўды: прышоў, падла, у хату і давай лізаць мне твар. Дык няўжо-ж мой суджаны сабака? (*сьмех*).

ЛЯВОНІХА. — Чаго-ж сама рагочаш? Тут не сьмяяцца, а плакаць трэба.

ГАНКА. — Чаго?

ЛЯВОНІХА. — Пэўне, што-небудзь ня гэтак зра-

біла, як трэба. Альбо траву ня гэткую сабрала, альбо ня так палажыла.

ДЗЯЎЧАТЫ. — А як трэба, цётачка? Скажы.

ЛЯВОНІХА. — Перш-на-перш трэба мець траву-багатуньню, потым ліст папараці, ён самы найважнейшы... Потым, перад тым, як класьціся спаць і пакласьці траву пад падушку, трэба тры разы сказаць малітву „ойча наш“... Калі гэтага ня зробіш, — нічога ня будзе.

ГАНКА. — Э, шмат раз я варажыла, і на ўсялякія манеры, а толку ўсё-ж ніколі ня было.

МАРЫСЯ. — Пэўне, прыдзецца табе ўвесь свой век дзеўкай векаваць.

ГАНКА. — А мусіць; варажба гэтак паказвае, то сабаку, то каго іншага яшчэ напрарочыць...

ЛЯВОНІХА. — А ты ня сьмейся і ў гэтым нейкі знак ёсьць.

ГАНКА. — Ня веру я ў гэта, бо ніколі ня спраўджваецца. Байкі ўсё.

ЗОСЬКА. — Ганка сягоньня паўтарае ўсе словы Сымона. Падазрэнна нешта (*з уїдросна кажучы*) быццам згаварыліся, а можа нават...

ГАНКА. — Нябойся, золатца маё. Я ведаю, што ты хацела сказаць, толькі ня туды заехала. Не патрэбны мне Сымон, ды і не на мяне ён паглядае. А калі праўду кажа, дык чаму-ж і не сказаць, што праўда. Лепш давайце павяселімся, дзеванькі, ды дамоў пойдзём.

МАРЫСЯ. — А варажыць? Не, ты, як сабе хочаш, а мы будзем. Праўда, дзяўчаткі, будзем варажыць?

ГАЛАСЫ. — Пойдзем зьбіраць! Будзем!

ЗОСЬКА. — Вось ты кажаш, што ў варажбу ня верыш, добра, ну, а можа і загаворы скажаш няпраўда?

Аднойчы Сьцяпан нагу сякерай да касьці расьсек, цётка загаварыла — і кроў спынілася.

ГАНКА. — (*ірочічна*). Няўжо? Бабка, гэтаму дык навучы мяне! Як толькі матка мяне адлупцуе да крыві, я гэты загавор скажу і ўсё, значыць, пройдзе: і крыў спыніцца, і балець ня будзе.

МАРЫСЯ. — А ці-ж можна самой? Трэба, каб хто іншы загаварваў.

ГАНКА. — Глупства! Бабка, навучы! Паможа.

ЛЯВОНІХА. — Табе скажы, а ты зноў кпіць пачнеш.

ГАНКА. — Ня буду, далібог, ня буду. Вось табе крыж. (*хрысьціцца левай рукой*). Скажы.

ДЗЯЎЧАТЫ. — Ці-ж левай рукой хрысьцяцца?

ГАНКА. — Няўжо левай? Бач, яго, забылася. Маеш правай, бабка, толькі навучы.

ЛЯВОНІХА. — Ня варта... Цяпер моладзь ужо ня гэткая, каб адчуваць патрэбу ў веры... ня варта..

ДЗЯЎЧАТЫ. — Цётачка, разскажыце! Навучы!

ЛЯВОНІХА — Расказаць ня цяжка, але, каб ён дапамог трэба моцна самому верыць у яго.

(*за сцэнай чутна песьня падыходзячых хлапцоў*):

Засьпявайма грамадою
Пра сучаснае жыцьцё,
Як рабочыя будуюць
Шчасьце новае сваё.
Вёска тож прачнуцца мусіць
Ад дзядоўскіх мараў—сноў.
Паляпшаць нам трэ' гасподу—
Пароду коняў і кароў.
Дык-жа разам рўка-ў-руку
І рабочы, селянін,
Усе за справу будаўніцтва,
Грамадою, як адзін.

АЛЕСЯ. — Чуеце, дзеванькі? Хлопцы грамадою ідуць, пэўне, сюды? Што-ж мы цяпер будзем рабіць? Яны нам перашкодзяць.

ЛЯВОНІХА. — Тады другім разам разскажу, а цяпер гуляйце сабе, а я дамоў пайду.

МАРЫСЯ. — О, не, мы вас, цётачка, ня пусьцім. Вы мусіце нам сягоньня гэты загавор разсказаць, а то як Ганка дамоў вернецца? (*сьмех, увах. хлапцы*).

ХЛАПЦЫ. — Добры вечар!

ПЁТРА. — Куды дзеўкі—туды мы; дзеўкі ў лес— мы за імі, дзеўкі селі і між імі! Добры вечар, дзяўчаткі—красачкі. Куды сабраліся? ці па ягады, ці па кветкі... а-а! і бабка Лявоніха тут? Тады зразумела куды накіроўваецеся. Вазьміце і нас з сабою.

МАРЫСЯ. — А навошта вы нам патрэбны?

ГАНКА. — І бяз вас абыдземся.

ПЁТРА. — Ці так?

ДЗЯЎЧАТЫ. — Але, але, абыдземся!.

ПЁТРА. — Чакайце, а то паглушыце нас. Няхай адна каторая гаворыць. Так вам сапраўды бяз нас весялей?

ГАНКА. — А няўжо? весялей.

ЦЫПРУК. — Хто-б гаварыў, а ты маўчала-бы. Сама без хлапцоў жыць ня можа, гарыць да іх; недарма ўсё на селе завуць...

ПЁТРА. — А ты чаго яе чапаеш? Здаецца не з табой гаворыць.

ЦЫПРУК. — І цябе ніхто не чапае. Бач, які абаронца знайшоўся. Сам лепш навучыся, а мяне ня трэ' вучыць, што, ды як рабіць.

ПЁТРА. — Гляньце, які разумны! цікава, дзе вучыўся і якую асьвету маеш?

ЦЫПРУК. — Якая-б ня была, а ўсё-ж большая чым твая.

ПЁТРА. — Вядома — усе калідоры школы пачатковай прайшоў (*сьмех*)

ЦЫПРУК. — А цябе і туды ня пусьцілі.

ЗОСЬКА. — Ды годзі вам спрачацца. Нам цётка пачала цікавае расказваць, а вы перашкодзілі. Шлібы сабе адгэтуль. Бабка, кажы і не зважай на іх.

ДЗЯЎЧАТЫ. — Цётачка, кажыце!

ХЛОПЦЫ. — Кажы, бабулька, і мы паслухаем.

ЛЯВОНІХА — Слухайце, калі цікавіцеся, толькі не перашкаджайце. (*да дзяўчат*) Ды вось: раней трэба таго чалавека ў якога рана, палажыць на ложак галавой на ўсход слонца, самую рану трэба накрыць сушаным лістком бярозы-плакуньні і казаць такія словы: „у лесе, у пушчы, у бярозавай гушчы, на беразе рэчкі лясной, на зломаным пні дуба-сталетка тры русалкі сядзяць над вадой. Ніткай шаўковай, доўгай, крывавай рану страшную яны зашываюць на целе няжывым... Стой!.. стой!.. Стой!.. (*скорагаворкай*) На зло хціўным людзям — стой!.. На злосьць ворагам лютым — стой!.. На радасьць любых родных — стой! (*зноў цягнучы*) Стой .. Стой... Спыніся! Рану глыбокую зачыні (трэба сказаць дзе: ці на руцэ, ці на назе) божа адзіны, наш Ісусе Хрысьце. Амэн“. Сказаўшы гэтыя словы трэба на рану пасыпаць прасеенага пеплу і кроў спыніцца.

СЫМОН. — Ай-да, бабка! лоўка зубы загаварвае.

ЛЯВОНІХА. — А мо' няпраўду кажу?

СЫМОН. — Праўду-няпраўду, ня ведаю. Толькі пеплу на рану сыпаць ня варта, заражэньне крыві можа быць.

ЛЯВОНІХА. — Заражэньне, заражэньне! Разумнымі вы ўсе зрабіліся, старых не паважаеце, мукамолы праклятыя! Мысліць, калі ў горадзе пабыў, дык і розуму набраўся. Саплякі! Цьфу!

СЫМОН.—Чаго-ж ты гэтак разышлася? Я нічога дрэннага не кажу, наадварот, кажу: што добра зубы можаш загаварываць. Цягні далей—яшчэ паслухаем.

ЛЯВОНІХА.—І гутарыць з табой не хача. І што гэта цяпер на сьвеце робіцца? Ні ў бога, ні ў чорта, ні ў загаворы ніхто ня верыць. Бязбожнікамі парабіліся ўсе.

СЫМОН—Ды годзі табе лаяцца. Лепш раскажы, як гэта трэба тройчы плюнуць і які загавор трэба сказаць, каб твой язык крыху стрымаць?

ЛЯВОНІХА.—Ах, ты смаркач, ды ці сьмееш ты мне гэткія рэчы казаць? Нехрысьць пракляты. Век табе не знайсьці сабе месца! Усіх у вёсцы супроць цябе натраўлю, кожны сабакамі цябе будзе цкаваць. Ніхто за цябе дачкі сваёй не аддасьць. Кожны пляваць на цябе будзе! Цьфу! (*шпарка выходзіць*)

ГАНКА.—(*са сьмехам*) Ну, Сымон, сьцеражыся! Цяпер бабка аславіць цябе на ўсёй вёсцы.

ПЁТРА.—А яна гэта можа.

СЫМОН.—Глупства, не баюся я яе.

ЗОСЬКА.—Памысьліш, прышоў вучыць нас. Мы пагуляць сабраліся, а не навукі слухаць твае.

СЫМОН.—Каб слухалі—лепш для вас было-бы і менш веры давалі-бы казкам Лявоніхі.

ЗОСЬКА—Што-ж зробіш, калі мы ўсе дурныя; толькі такім разумным, як ты, я ня раіла-бы з дурнямі кампанію вадзіць.

ЦЫПРУК.—А сапраўды, дзяўчаткі, пойдзем далей ад разумных, весялей бяз іх.

ПЁТРА.—Бач, хлопцы, рылам бог скрыдзіў, дык падлізваньнем хоча ўзяць. Гніда!

ХІМКА.—І зусім не падлізваецца. Цыпрук заўсёды з намі гуляе, ён нашай кампаніі і не выстаўляецца са сваім розумам, як іншыя.

АЛЕСЯ. — Цыпрук наш вясковец і гарадзкіх парадкаў не заводзіць. .

СЫМОН. — Не спрачаюся, што для некаторых Цыпрук свой чалавек.

ЗОСЬКА. — І вось гэтак заўсёды: прыдзе і сваімі разумнымі гутаркамі гульбішча папсую, то гэта ня так, тое ды сёе. Цыпрук, бяры гармонік і пойдзем.

ЦЫПРУК. — На ўсіх чатырох за табою! (*да Сымона, паказваючы нос*) Злавіў?

СЫМОН. — (*махнуўшы рукой*) Эт!

ЦЫПРУК — Вядома, дзе ўжо вам абадранай фабрычнай шантрапе раўняцца з намі? Галапупнікі! Бальшакі!

СЫМОН. — Ну, ты! Асьцярожней! яшчэ слова — мала ня будзе, паскуда кулацкая!.. (*наступае на яго*)

ЦЫПРУК. — (*спужаўшыся*) Н-не... не надта і ты... бачылі мы гэткіх.. (*адступаючы; хаваецца за сьпіны дзяўчат*) Кавалер без парткоў! А, ну дай?

СЫМОН. — Чаго-ж хаваешся? Выходзь, спрабуем хто каму наложыць Толькі ўжо ня гневайся — мала ня будзе.

ЦЫПРУК — Мысьліш, спужаўся? Толькі рук пэцкаць не хачу аб гэткае...

ЗОСЬКА. — Ды годзі, замаўчы.

ЦЫПРУК. — А чаго ён прычапіўся? Сволач!

СЫМОН. — Што?!

ЦЫПРУК — (*ад неспадзеўкі*) Ай, мама!.. (*уцякае за дзяўчат; усе рагочуць*) Надта разышоўся: „ня верце знахаркам, ня верце ў загаворы! Брахня ўсё. Няма ні бога, ні відзьмаў, ні русалак!“ — А сам дык напэўне ня пойдзе ў лес у начы, асабліва ў Гнілы Кут, ды яшчэ сягоньня.

СЫМОН. — Я не пайду? Я куды хочаш пайду.

ЦЫПРУК. — Пахваляешся толькі, а пайсьці дык пабаішся.

ВОЛЬКА. — Пайсьці-гэта мала. А вазьмі ды заначуй у лесе.

ЦЫПРУК. — Але, але, заначуй у лесе, і каб цябе там ніхто не крануў, вось як!

СЫМОН. — І пайду, і заначую, і ніхто не кране мяне, цэлы буду. Ідзем хлопцы!

ЦЫПРУК — Адзін!.. Каб аднаму ў лес пайсьці!.. Грамадой ня штука.

СЫМОН. — І адзін пайду. Прыходзьце праверыць хлопцы.

ПЁТРА. — І навошта табе хадзіць у лес? Прад кім ты хочаш паказацца? Плюнь, ды годзі! Ахвота швэндацца праз усю ноч па балоце.

ЗОСЬКА. — Крый божа, яшчэ заваліўся дзе небудзь. У начы ня відаць.

СЫМОН — А табе шкада?

ЗОСЬКА. — Н-не... Я так толькі...

ВОЛЬКА. — Сапраўды не хадзі, Сымон. Мо' ты і ня верыш, а русалкі, ці іншыя хто там, у лесе, за гэта самае і пагубяць цябе.

СЫМОН. — Ды няма там іх і нідзе іх нямашака. Гэта людзі самі сабе выдумалі ўсялякую нечысьць, асабліва гэта патрэбна такім як Лявонісе

ЦЫПРУК. — Няма, няма! Хаця і кажаш, што няма, а ў лес а паўночы пабаішся пайсьці.

ІГНАТ — Сымон ужо сказаў, што пойдзе, значыць, пойдзе, ён ніколі не лгаў. А ты гэтага пэўне ня зробіш! Слабо табе. Праўда, хлопцы, здрэфіць Цыпрук?

ХЛОПЦЫ — Ня пойдзе! Здрэфіць! Вядома!

ЦЫПРУК — А вось пайду і папаратніку прынясу.

ІГНАТ. — Памрэш са страху, як летась Рыгорава жонка, а не прынясеш.

ЦЫПРУК.—Аб заклад б'юся, што пайду і прынясу.

СЫМОН —Як-жа ты пойдзеш і прынясеш, калі ў лесе відзьмы і чарты?

ЦЫПРУК.—Я загавор ад іх ведаю.

ІГНАТ —Хоць і загавор ведаеш, але ў лес адзін ня пойдзеш.

ЦЫПРУК.—Гармонік ставлю аб заклад.

ІГНАТ.—Хлопцы, кладзіце заклад! Выйграем.

ХЛОПЦЫ —Добра! ставім!..

СЫМОН.—Слухайце, хлопцы! Ня трэба ніякага закладу, а лепш вось як зробім: Цыпрук і я пойдзем у лес, вядома паасобку, і кожны з нас павінен占 значаваць там, а ў пацьвярджэньне таго, што быў у лесе прынесьці:—Цыпрук кветку папараці (ён кажа, што папараць у гэту ноч павінна цьвісьці), а я так папаратніку, лісьцяў, бо ведаю, што папараць ня цьвіце Згода?

ХЛОПЦЫ.—Згода, згода!

ПЁТРА.—А я прасіў-бы Цыпрука ў лесе злавіць і сюды прывесьці жывога чорта, ніколі ў жыцьці гэткага ня бачыў.

ІГНАТ.—Альбо ты, Сымон, калі пабачыш яго дык цягні сюды.

СЫМОН.—А ўжо, калі пападзецца, з рук ня пушчу. Ну, як згода, Цыпрук?

ЦЫПРУК.—Згода, я пайду; толькі ты ня здрэфь.

СЫМОН.—Мне няма чаго баяцца. Ня раз адзін хадзіў у начлег і цяпер пайду, і заначую, а табе вось гэта навіна. Калі не пабаішся, прыходзь а паўночы ў лес—я буду спаць на тым самым месцы, дзе летась Рыгорыва, як кажуць, нейкую нячыстую сілу бачыла.

ЦЫПРУК.—Ногі кароткі, каб туды табе дайсь-

ці ўначы. А я вось зараз пераапрануся і напрамк ў Гнілы Кут. (*выходзіць*).

ПЁТРА. — (*у сьлед яму*) Не запамятай у маткі сьвянцоную ладанку ўзяць з сабой!.. (*да дзяўчат*). Ну, сарокі-белабокі, чаго вераб'ямі нахохліліся? Давайце гуляць, альбо па хатам марш, а то як на хаўтурах нешта.

ГАНКА. — Сапраўды, дзеванькі, чаго гэтак сядзець? Давайце гуляць.

МАРЫСЯ. — Неяк усё вясельле прапала.

СЫМОН. — Глупства! — знойдзем. Зоська, зацягвай песьню...

ЗОСЬКА. — Ня ўмею я вашых разумных, гарадзкіх песень пяяць.

СЫМОН. — (*пaціху, адыхочы ў бок*). Так... Сьмяемся ўсё...

ПЁТРА. — Дык пачыняйце дурныя — усё роўна.

ГАНКА. — Сапраўды, дзеванькі, чаго гэтак сядзець? Давайце запяем?

ГАЛАСЫ. — Давайце, давайце! (*пяюць*).

ДЗЯЎЧАТЫ — Сумна праходзяць купальскія гульні
Вясельля і сьмеху больш ўжо няма —

ХЛОПЦЫ. — Глупства! У новых звычаях
Знойдзем карысны адбітак жыцьця.

УСЕ. — Старое руйнуецца шпарка;
У старым ўжо карысьці ня чуем.
З новымі сіламі, з моцнаю верай
Новага жыцьця быт мы будуем.

ПЁТРА. — (*падыходзіць да Сымона, які сеў воддаль і замысьліўся*). Аб чым замысьліўся? мо' страшна ў лесісьці?

СЫМОН. — Дзіўны чалавек! каго мне баяцца? Я не аб гэтым. Мысьлю, на якога ліха я сюды прыехаў? Вельмі патрэбна было. Спадзяваўся, што за

час водпуску адпачну, а выходзіць што... дурны, як бот!

(*Дзяўчаты ў паўголаса пачынаюць пяяць: «Ой ляці це, шэры гусі!..»*)

ПЁТРА.—Завошта ты сябе лаеш? А-а!.. ведаю... ці ні аб Зосьцы ты?..

СЫМОН.—Цсс!.. ня трэба, каб яна што-небудзь чула... чорт з ёй!

ПЁТРА.—З чаго-ж ты?..

СЫМОН.—Злосьці ў яе шмат... задзірства... а потым—каго выбрала? На гаспадарку, на маёмасьць глядзіць, а не на чалавека, эх!.. Во! чуеш, сьмяецца?.. здаецца і ласкава, а падыйдзі—укусіць... Іншы раз сам ня ведаю, што з ёю зрабіў-бы; ці пабіў, ці забіў-бы...

ПЁТРА.—Кінь глупства казаць, нам гэтак не выпадае ня толькі што рабіць, але нават і мысьліць.

СЫМОН.—Праўду, таварыш, кажаш. Няма часу аб сабе толькі мысьліць. Адпачынак-адпачынкам, а працы тут шмат яшчэ ёсьць.

ПЁТРА.—Вось гэта добра. Ідзём у грамаду—павесялімся сягоньня, а заўтра-за справу. (*ідуць*) Сыр'я, і добрага, шмат ёсьць. (*да грамады*) Годзі вам лазара цягнуць. Давайце ў нешта вясёлае пачнем гуляць. Хлопцы, раскладвайце вогнішчы, а дзяўчаткі—вясёлую! Лявоніху!

АЛЕСЯ.—Вось гэтак-бы даўно пара, а то нудоту распачалі.

ГАЛАСЫ.—Давайце Лявоніху! Лявоніху!..

ЗОСЬКА.—(*адыходзячы ад грамады, да Сымона*). Чаго гуляць ня йдзеш? А можа і гульні мы ня гэтак гуляем, як разумныя гарадзкія? Ха-ха-ха! (*побегла*).

СЫМОН.—(*сарваўся з месца нібыта нешта хацеў сказаць, але толькі махнуў рукой і паціху лажыцца на зямлю*) *Танцуюць Лявоніху*

*ЗАСЛОНА.*

## ДЗЕЯ II-я

*(Лясная пушча над абрывам невялічкай рэчкі. Поўнач. На сцэне хлапцы).*

ПЕТРА — Слухайце, хлопцы, вось на гэтай палянцы мы зробім засаду і дамо жаху нашым гэроям.

ІГНАТ — Цыпрук ня пойдзе пабаіцца, а вось Сымона дык трэба крыху папужаць, паглядзім ці сапраўды ён гэтакі адважны, як кажа.

ПЁТРА Сымон ня спужаецца, я ведаю яго; мне вось каб Цыпрука спаймаць.

РАМАН — Спаймаем калі толькі пойдзе, іншай дарогі няма, нікуды ні дзенецца.

*(за сцэнай чутны пераклікаючыся галаса дзяўчат).*

ПЁТРА — Вось не ў пару дзяўчат па лесе насіць. Перашкодзяць толькі.

МІХАСЬ — Схаваемся, хлопцы, ды пугнём адгэтуль дзявочую армію, хай у лесе па начы ня блукаюць.

АНДРЭЙ — Ня варта іх чапаць, папужаюцца, толькі клопату потым з імі набярэшся.

МІХАСЬ — Глупства. Павізжаць ды ўцякуць. Хавайцеся, браткі, а то надыйдуць. *(хаваюцца)*

*(уваходзяць дзяўчаты)*

МАРЫСЯ — Куды-ж гэта мы зайшлі? Нейкае не знаёмае месца.

ХІМКА — Ды-ж гэта мы не далёка ад таго месца, дзе Рыгорава жонка відзьмаў бачыла... Ай страшна!

ГАНКА — А мне-дык зусім не. А табе, Зоська?

ЗОСЬКА — Не, ня страшна, асабліва з табой. Пяеш, сьмяешся, галёкаеш...

ГАНКА — З песьняй весялей ісьці. Ну, а вы чаго спахмурнелі, баіцеся? Кіньце, дзеванькі, палохацца, нікога няма - ні відзьмаў, ні лясуноў, ні русалак, самі сягоньня праканаецеся, толькі ня трэба баяцца.

КРЫСТЫНА — А чаму гэткае здарэньне было летась з Рыгоравай?

ГАНКА — Каб не паслухала дурной рады — нічога ня было-бы.

ХІМКА — А як з ёй гэта здарылася?

МАРЫСЯ — Ды вось як: пайшла яна ў Купальскую ноч у лес за кветкаю папараці, Лявоніха навучыла, сказала: калі сарве кветку, то шчасьце сваё знойдзе і багацьце, а яно ёй, самі ведаеце, як патрэбна было. Ну, дык вось - прышла яна ў лес, як раз ужо поўнач была, і бачыць — прыгожая кветка цьвіце. Рыгорыха да яе кінулася, а кветка не даецца ўдаль адыходзіць, яна — да яе, кветка далей, яна да яе — кветка далей; потым Рыгорыха раптам, як схопіць кветку, але замест кветкі ў руках апынулася грамнічная сьвечка. Бедная кабеціна так спужалася, кінулася на ўцекі і каля Панасавай кузьні богу душу аддала. Лявоніха кажа, што гэта за тое так здарылася з ёй, што яна ў лес з крыжам на шыі прышла, забылася зьняць.

ВОЛЬКА — (*раптам*) Ах! і я забылася... Ох, ліханька на маю галаву!

ГАНКА — А ты, Марыся, адкуль усё гэта ведаеш?

МАРЫСЯ — Як адкуль? ды... ды... людзі казалі.

ГАНКА — А людзі скуль могуць ведаць? Яны-ж з Марыляй не хадзілі, як яна памёрла ня бачылі. Ды як-жа яны могуць гаварыць?

МАРЫСЯ — (*зусім зьбітая з панталыку*) Гэтак Лявоніха... казала на сяле...

ГАНКА — Лявоніха? Пэўне яна гэту казку сама і склала, каб больш павагі сярод людзей набыць. А Рыгорыха памёрла ад сухот, даўно дактары ў ёй гэта прызналі, але не ад помсты нячысьцікаў. Ведайце, дзяўчаткі, кіколі ня трэба баяцца таго, чаго ня-

ма, а аб тым чаго ня ведаеш—дазнацца ляпей. Вось я ня веру а ні ў якую нечысьць, бо ня бачыла, а калі ёсьць, то няхай пакажацца—тады паверу. І вось зараз пачну склікаць — зьявяцца — паверу, не — дык ніколі. (*крычыць*) А га-га-га-га-а!.. Сюды!.

ВОЛЬКА — Кінь галёкаць! А то сапраўды бяду наклічаш.

ГАНКА — Глупства! А га-га-га-а!...

(*з-за кустоў хлопцы пачынаюць рычэць, сьвістаць і г.д.*)

ДЗЯЎЧАТЫ — Ай!.. Што гэта!..

ГАНКА — Ня пужайцеся, гэта... мы зараз дазнаемся.

(*гукі за кустоў мацней*)

ДЗЯЎЧАТЫ — Уцякайма... Уцякайма... (*хапаюць Ганку, якая хацела падыйсьці да куста і хутка выходзяць*)

ІГНАТ — (*пасьля малай паузы, вылазіць з пад куста*) Вылазь, хлопцы!

ПЁТРА — Маладзец Ганка, бой-дзеўка, каб іншыя ня спужаліся, яна выкрыла-бы нас.

АНДРЭЙ — А добра ўсё-ж мы іх напужалі.

ЛЯКСЕЙ — Глупства ўсё гэта. Што далей мы будзем рабіць? Сядзець гэтак і чакаць у полі ветру няма сэнсу. Мабыць ні адзін, ні другі ў лес ня зьбіраюцца ісьці. Толькі дарма час губім; ляпей дзяўчат падхапілі-бы, ды пагулялі, як сьлед. Ідзем на ўздагон да дзяўчат?

ІГНАТ — Не, хлопцы, чакалі гэтулькі, пачакаем яшчэ. Сядзема ды закурым, а Ляксей хай што-небудзь з жыцьця свайго раскажа. Не дарма-ж блукаўся па сьвеце столькі год.

ЛЯКСЕЙ — А так, браткі, шмат цікавага мне давялося бачыць. Асабліва засталася мне ў памяці адна вёска: раней была сярод балота ды багны, як

раз як наша, а потым як зрабілі мэоліраныю, гэта значыць асушку балота, якія багатыя палі атрымалі, якія ўраджаі. Вось і нам абавязкова трэба папрасіць, каб прыехаў да нас аграном ды пагутарыў, ды паказаў; толькі са старымі нашымі да ладу ня дойдзешь. Моцна трымаюць у сваіх лапах усё сяло гэткія, як Цыпруковы бацька.

ІГНАТ — Ціха! нібыта нехта ідзе... гальлё пад нагамі трашчыць.

ЛЯКСЕЙ—Цсс! Гэта Цыпрук... я ведаю яго крок...

ІГНАТ — Хавайцеся!.. паглядзім, што ён будзе рабіць? (*хаваюцца*)

ЦЫПРУК — (*уваходзіць*) Брр... Усё-ж як страшна. Прасіў бацьку, каб разам ісьці, не захацеў стары, кажа: навошта мне ісьці за тым, чаго няма? А калі баішся, кажа, дык вазьмі вобраз, ды крыж, ўсё-ж сьмялей будзе; хаця, кажа, у лесе апрыч воўка, ніякага чорта няма. Добра яму казаць, седзючы ў хаце. А мне? І чаго я пашоў у гэткую нечысьць... Божа міласьцівы, ніколі больш гэтак ня буду рабіць... (*за кустамі варушацца хлопцы*) Ой-ой!.. за кожным дрэвам здаецца, відзьмы сядзяць.. Ой, згіну я!.. Зьядуць яны мяне жыўцом, з костачкамі і з галёшамі.. (*чуцен сьвіст з-за кустоў*) Ой-ой! Сьвішча ўжо... (*чутно нейкае рыканьне*) Вось, вось... Поўнач ужо... пачынаецца ўжо... самы разгар вядзьмоўскага вясельля... (*сьвіст*) Вось, вось.. Ой-ой! Прапаў... марна згінуў. . нават бяз споведзі... Божа міласьцівы... (*моцны сьвіст*) сьвішча! Ой-ой! Юзэфэ сьвенты.. (*сьвіст*) сьвішча!.. Матка боская.. (*сьвіст*) сьвішча! Хрысьце божа.. (*сьвіст*) сьвішча! Ой-ёй, як сьвішча! .. (*гукі ўсё мацнеюць; раптам Міхась выскаквае з-за куста і кідаецца яму пад ногі, Цыпрук з дзікім крыкам валіцца на зямлю, падымаецца і ўцякае*)

ХЛОПЦЫ. — (*вылазячы з-за кустоў*) А-цю! А-та, а-та!..

ІГНАТ. — Цыпрук уляпётвае, ажна трэск па лесе гудзіць...

ЛЯКСЕЙ — Гляньце, братцы: — Цыпрук са страху і шапку, і галёшы свае пакінуў... (*падымае*) А гэта што? Ха-ха-ха! сьвяты Язэп на нітачцы з нейкай травою.

МІХАСЬ. — Ні памог сьвяты, як ні прасіў, як ні заклінаў.

ПЁТРА. — Ну, хлопцы, хавайце знойдзенае і пойдзем дамоў. Заўтра аддасьцё ўласьніку.

ЛЯКСЕЙ. — Не, раней чым аддаць трэба будзе запытаць яго, дзе шапка і чаму без галёш; цікава што будзе Цыпрук гаварыць.

ПЁТРА. — Пэўне, што лгаць пачне.

ЛЯКСЕЙ — Толькі ты яго ня спыняй. Няхай гаворыць колькі хоча, цікава да чаго ён дагаварыцца, а потым пакажам шапку ды галёшы і вобраз Язэпа...

АНДРЭЙ. — Ды ўспомнім яму, як ён маліўся і абяцаўся.

ЛЯКСЕЙ. — Цікавая комэдыя будзе, — як у тэатры.

МІХАСЬ. — Як гэта ён маліўся складна: матка боска! — сьвішча!.. Юзэфе сьвенты. — сьвішча! . (*усе сьмяюцца*) Ды за жывот хапаўся .. Эх і гэрой-жа знайшоўся; каб ня хвастаўся хаця. На маю ўроду, каб я намісьліўся дык рабіў-бы ўжо да канца. Ня спужаўся-бы

ЛЯКСЕЙ — А не выстаўляйся і ты ўжо. Каб гэтак знянацку спаймалі-б — тож стракача задаў-бы.

МІХАСЬ — Я — ніколі!

ГАЛАСЫ. — Не пахваляйся! . Уцёк-бы!..

МІХАСЬ. — Ніколі!..

ПЁТРА. — Цішэй! чаго разгалёкаліся? Чуеце? галасы .

*(За сцэнай чутны галасы дзяўчат. Сярод іх выдзяляецца голас Ганкі: «Дурныя, чаго палохацца? Гэта мабыць нашы хлапцы, ідзем Не начаваць-жа тут у лесе?»)*

ЛЯКСЕЙ. — Гэта нашы дзяўчаты яшчэ блукаюць. Паклікаць, ці што?

МІХАСЬ, — Кліч, весялей дамоў будзем варочацца.

АНДРЭЙ — А мо' яшчэ раз напужаць?

ПЁТРА. — Годзі з іх і аднаго раза *(крычыць)* Дзяўчаткі, сюды! Свае—ня бойцеся!..

ХЛОПЦЫ — Сюды, сюды!...

*(за сцэнай галасы: «Ідзем» уваходзяць дзяўчаты)*

ГАНКА. — Падлы! Гэта мусіць вы нас напужалі? Прызнавайцеся?

ЛЯКСЕЙ — Хто? Калі? Дзе? Як?

ГАНКА. — Чаго дурня строіш? Як раз на гэтым самым месцы... Каб мае сарокі не надта былі пужлівыя, — я выкрыла бы вас. Яны толькі перашкодзілі.

ПЁТРА — Ці-ж я не казаў, хлопцы? Мае словы, быццам падслухала. Маладзец, Ганка.

ЗОСЬКА. — Я тож, зусім-зусім не спужалася, толькі...

ДЗЯЎЧАТЫ — І я! і я!..

ГАНКА — Цяпер вы ўсе надта адважныя, а што раней казалі?..

АЛЕСЯ — Годзі ўжо аб гэтым, лепш пойдзем дамоў, бо хўтка і дзень будзе.

ЛЯКСЕЙ — Пачакайце дзеванькі; разам пойдзем. Пагуляем яшчэ крыху...

ГАНКА — А ты мяне бараніць будзеш, як матка лупцаваць пачне?

ПЁТРА — Вядома будзем Я—першы.

ГАНКА. — Ты? Добра. Памятай аб гэтым, што абяцаў, а цяпер давайце гуляць.

ЛЯКСЕЙ — А ўсё-ж шкада, што Сымона ня пры-

дзецца крыху папужаць Вельмі мне хацелася паглядзець на яго адвагу.

АНДРЭЙ — Вось бачыш—здрэфіў.

ІГНАТ. — А можа ён яшчэ прыдзе.

РАМАН. — Дзе там чакай!

ЛЯ СЕЙ – Цсс!. Нейчы голас.. Здаецца Сымон пяе?.

МІХАСЬ — Але, ён Маладзец хлопец, спаўняе свае слова...

ІГНАТ. — Ну, хлопцы, з Сымонам будзем рабіць што ці не?

АНДРЭЙ. — Ня варта, гэты не спужаецца

ЛЯКСЕЙ — Не, калі ўжо наважыліся двох узяць у работу, дык трэба і Сымона не прапушчаць

ІГНАТ. — Тады: хавайцеся, дзяўчаткі!. Хлопцы ў кусты! (*хаваюцца*)

(*песьня падыходзячага Сымона*)

На шлях змаганьня з варажбою
Павінна выйсьці грамадою
Уся моладзь вёскі, гарадоў.
Досыць ўжо шаптухам-бабкам
Дурман садзіць па цёмным хаткам
Вяскоўцаў нашых, мужыкоў
Ды і цыганак варажбітак,
Што па гарадох, сялох набіта
Трэба крыху прыпініць
Болей ведаў, больш асьветы!
Багацьцё здабыўшы гэта
Нам ня цяжка будзе жыць.

СЫМОН. — (*уваходзячы*) Ну, вось я і на месцы. Дзіўна складаюцца рэчы: адзін чалавек ідзе па лесе ўначы, быццам, як і ў дзень, другому-ж дзівы нейкія здаюцца Сьмешны Цыпрук—і ў школе вучыўся, быў і ў горадзе, ня то, што некаторыя з нашых хлапцоў:

ні бэ, ні мэ і далей свайго загону нідзе ня быў. Ляціць цяпер Цыпрук, як шалёны, спужаўся, пэўне, нечага. Пабачыў мяне, ды як мітузанецца ў бок, хрысьціцца ды прыгаварвае: „чур мяне, чур!“ Сьмешна і балюча, што ёсьць яшчэ моладзь, якая моцна прыліпла к старому. (*паўза*) Ці доўга яшчэ сядзець прыдзецца? Каб ня трэба было даказаць сялу, асабліва старым нашым, ці блукаў бы я ўначы па лесе? (*з зь кустоў чуцен дзявочых галасоў піск*) Ого! ніколі не памысьліў бы, каб дзяўчаты пайшлі ў лес пужаць мяне ад хлапцоў спадзяваўся, а ад іх—ніколі. Нічога, павызжыце сабе крыку. (*з другога боку пачынаюць хлапцы рычаць, сьвістаць*) А!.. і хлапцы тут? добра пашукаем. (*ідзе к кусту і выцягвае Міхася*) Адзін ёсьць. Хто гэта? Стой!.. не ўцячэш... Кажы хто? а то адлупцую... (*трасе яго*).

МІХАСЬ. — Мі... мі... Годзі ўжо!..

СЫМОН—Адразу-бы гэтак і казаў. Хлопцы ўсе тут?

МІХАСЬ. — Усе... (*паказвае на куст*) Там...

ЛЯКСЕЙ. — (*выходзячы з зь куста*) Ну, і даўгі-ж у цябе язык.

МІХАСЬ: — Не язык у мяне даўгі, але рукі ў яго: гэтак згроб ды трос.

ПЁТРА. — (*выходзячы*) Вылазь, дзяўчаткі і хлопцы, наша штука не ўдалася.

(*усе выходзяць на сцэну*)

ДЗЯЎЧАТЫ. — Ай-да, маладзец, Сымон, ня спужаўся.

СЫМОН. — А чаго мне баяцца? Я вам і раней казаў, што ўсе страхі самі людзі сабе прыдумалі. Гэта карысна папам ды знахарам, якіх яшчэ нямала ёсьць у нас. Вось яны і падтрымліваюць гэту веру ў людзях. (*Рапатам па лесе пранесься нейкі дзікі роагат*).

ДЗЯЎЧАТЫ. — Ах!..

СЫМОН. — Што?.. Нехто яшчэ ёсьць? Зараз пабачым! (*ідзе к кустам адкуль рогат пачуўся*).

ЗОСЬКА. — Сымон, не хадзі!..

СЫМОН. — Глупства!.. (*пашоў*).

(*з зъ дрэва, на сустрэч Сымону, паказваецца нейкі цень са зьзяючымі вачыма і ротам.*)

СЫМОН. — А, вось яно!.. (*кідаецца да ценю, нейкі час ідзе моўчкі барацьба. Усе напруджана глядзяць. Паўза. Потым Сымон перамог*.) Хлопцы, дайце сярнічку, паглядзім хто гэта?

ЛЯКСЕЙ. — (*дае серныкі; Сымон запальвае*)

УСЕ. — Ды гэта-ж бабка Лявоніха! Скуль? Як?

СЫМОН. — (*да Пётры*) Вось маеш табе і жывога чорта (*усе сьмяюцца*) Эх, ты, старая! На старасьці год, здаецца, толькі на печцы сядзець, ды косьці грэць, а не па лесе швэндацца з гарачым вугольлем у губе, ды чорта з сябе строіць. Сорам! (*адыходзячы ад яе, да грамады*) Ну, ці я няпраўду казаў, таварышы?

УСЕ. — Праўда, праўда!

ЛЯВОНІХА. — Дзеткі... даражэнькія... чорт папутаў. (*усе сьмяюцца*)

ПЁТРА. — Які чорт?! Ты-ж сама ім была! (*сьмех*)

ЛЯВОНІХА. — Хлопчыкі, дзяўчаткі... на каленах буду прасіць вас... нікому не кажыце... што тут здарылася... Памру... памру з голаду.. Цяпер людзі ўсё больш і больш перастаюць верыць у бога і ў.. чорта.,. цьфу! ня буду і гаварыць аб ім, чорт яго вазьмі... (*сьмех усёй грамады*).

СЫМОН. — Лоўка, бабка! Даўно-бы гэтак: к чорту чорта!

ЛЯВОНІХА. — Даражэнькія... не кажыце нікому... Вось на каленах прашу вас... (*стала на калены*).

СЫМОН. — Устань, Лявоніха, тут не царква і

кленчыць ня трэба. А наконт таго, каб мы нічога не гаварылі,—добра, ня будзем, толькі ты ў такім разе сама павінна будзеш аб усім разказаць.

ЛЯВОНІХА.—Як сама? аб чым?

СЫМОН.—А так Заўтра на сяле, як зьбяруцца ўсе нашы старыя, ты і пачнеш, няўзначай быццам, гаварыць аб тым, што ўсе гутаркі аб нячысьціках і іншым—байкі, што нічога гэтага няма і тое, што ты раней рабіла таксама няпраўда

ЛЯВОНІХА.—А з чаго я буду жыць тады?

СЫМОН.—Знойдзеш сабе кавалак хлеба. Тым больш, ты адна, многа ня трэба; ды яшчэ і не такая старая. Хату маеш, вазьмі кавалак зямлі—працуй, а то ідзі ў колгаспадарку і там можна працаваць. А сваё знахаратва кінь і другім закажы ніколі гэтым не займацца. Ну, што згода, ці не?

ЛЯВОНІХА.—(*пасьля паўзы*) Рабіце, як знаеце.. я на ўсе цяпер згодна... (*адыходзіць у бок і садзіцца ў задуменьні на пень*).

СЫМОН.—Вось і добра.

ГАНКА.—А цяпер пара і па хатам разыходзіцца.

МАРЫСЯ.—Зацягвай, Алеська, песьню!

АЛЕСЯ.—(*пяе*)

З гэтай купальскае ночкі
Ня веру я больш ў варажбу.
Заместа зьвіваньня прыгожых вяночкаў
Больш карысную працу найду.

УСЕ.—Але!
Замест варажбы,
Клятвы, бажбы,
Папоў, знахароў навучэньне,
Усе як адзін,
Моладзь, вазьміся!
За новага быту стварэньне.

Дзяўчаты. — Трэба нам болей асьветы
Здабыць, каб змагчы цемнату,
Бо шмат 'шчэ маем прыкладаў
Веры у бога, чартоў, варажбу.
УСЕ. — Але!
Далоў знахароў!
Дзякоў і папоў!
Манячых ў працягу вякоў.
Моладзь заўжды,
Папераздзі ўсіх
Прэч гоніць ўсялякіх багоў.
ГАНКА. — Гэта патрэбна больш усяго
Вясковай уцяміць дзяўчыне,
Бо быту старога цяжкае ярмо
Гнець моцна жаночыя сьпіны.
УСЕ. — Але!
На новы лад
Жыцьця ўклад
Пачнем мы жвава будаваць.
За новы быт,
Жыцьця расквіт
Пачнем песьні новыя пяць.

*ЗАСЛОНА.*

## ДЗЕЯ III-я

*(Вуліца вёскі. З левага боку вуліцы стаіць новая будыніна Рыгора, яшчэ не закончаная; з правага—старая, яго-жа хатка, каля якой ён сядзіць з Зоськай і Лявоніхай. Дзень Івана Купалы. Пры падняцьці заслоны на сцэне ўсе ўдзельнікі, апрача Цыпрука. (Пракоп сядзіць каля не закончанай хаты на бярвеньнях)*

ПЁТРА. — Нешта нашага Цыпрука ня відаць. Заўсёды бывала першым на сяле тары-бары разводзіць, а сягоньня няма.

ІГНАТ — Мусіць ад лясных страхаў адыйсьці ня можа. Жартачкі столькі нацярпецца.

ЛЯКСЕЙ. — А можа Міхась яму што небудзь зламаў? Гэтак, бедны, грымзнуў, што зямля задрыжэла. (*сьмех*)

МІХАСЬ. — Калі ў мяне шыя засталася цэлая пасьля Сымонавай трускі, то ў Цыпрука нічога ня можа быць

СЫМОН. — А ўсё-ж цікава, чаму ня выходзіць з хаты Цыпрук? Зоська, ты мусіш ведаць?

ЗОСЬКА — Чаму я?

СЫМОН — А так. Бо ён „ваш“, заўсёды з вамі кампанію водзіць, гэта па першае а па-другое — ты, амаль што своя ў яго сям'і, дык павінна нават ведаць аб жаніху сваім Ха-ха!.. (***нядобра сьмяецца***)

ЗОСЬКА. — (*амаль што ня плача*) Ах, так!.. Але, ведаю ды не скажу!..

ГАНКА — Аво, і Цыпрук сам ідзе.

ГАЛАСЫ. — Ды, ну?.. ці праўда? Нарэшцэ!

(*уваходзіць Цыпрук*)

УСЕ — Ну, як? Хутчэй кажы ці прынёс папаратніку?

ЦЫПРУК. — Ды дзе там?! Дастанеш яго праклятага. Каб толькі вы ведалі, мае даражэнькія, што са мной у лесе было, дык зьдзіваліся-бы, што я сам цэлы застаўся.

ГАЛАСЫ. — А што? раскажы.

ЦЫПРУК — Як мы ўчора з вечару ўмовіліся, я і пашоў у лес, у Гнілы Кут. Прышоў гэта я да месца, сеў і пачаў чакаць, але дзеля ўсякага выпадку, зрабіў на зямлі каля сябе кола, сказаў тры разы пацеры; сяджу і чакаю. Раптам, пэўне каля палуночы, усе дрэвы пачалі неяк страшна гаманіць, быццам чалавечым голасам: бяжы адгэтуль!.. у-ця-кай!.. Гэта

значыць, каб я выходзіў з лесу і не перашкаджаў гульні нячысьцікаў. Добра, — мысьлю сабе, — гаманіце колькі хочаце... а сам сяджу. Разззлаваліся, пэўне, ад гэтага яны!..

СЫМОН. — Хто яны?

ЦЫПРУК. — Нячысьцікі.

СЫМОН — А я мысьліў — дрэвы. Ну, ну, кажы далей.

ЦЫПРУК. — Ды вось я і к жу: пэўне, заславаліся на мяне нячысьцікі, што я не паслухаў іх; вый-шлі на палянку, дзе я сядзеў, і давай скакаць навокал мяне свой чартоўскі вальц. А які-ж гоман ад гэтага ўзьняўся па лесе, якая завіруха, як раз як на каляды. І вось: пачалі нячысьцікі скакаць і да мяне рукі пра-сьціраць, каб значыцца, мяне схапіць. А я не зва-рачваючы на іх увагі, сяджу, ды толькі пацеры пра сябе кажу.

ПЁТРА. — Здрэфіў, знача?

ЦЫПРУК. — Ня здрэфіў, а так дзеля ўсялякага выпадку, каб... ня гэтак страшна было. Дык вось слухайце: скакалі яны, скакалі каля мане, а потым раптам адзін, відаць самы старшы з іх, як схопіць мяне, ды і выкінуў з кола. Астатнія ўраз падхапілі і давай мяне з рук на рукі перакідваць... І вось, толькі я неяк пасьпеў стаць на ногі, як адзін з відзьмаў, як бухне мне пад ногі, але я не дурны: ён мне пад ногі, а яго і асядлаў. Ускачыў ён, хоча скінуць мяне але я моцна трымаюся. Тады пачаў ён, мяне па лесе насіць... Насіў, насіў ён мяне, лёталі, мы лёталі а потым як страсанецца ён, як палячу я, ды як браз-нуся аб зямлю, ажна вагонь з вачэй пасыпаўся... Ляжу і ня дыхаю... Мысьлю, што далей будзе? Чую — ціха... толькі далёка недзе пятухі пяюць і віднець па-чало. Я ўстаў і пашоў да хаты. Ідучы дамоў яшчэ двох відзьмаў бачыў, але яны мяне не чапалі.

ПЁТРА. — А дзе ты бачыў гэтых відзьмаў?

ЦЫПРУК — Ды па дарозе, як ужо дамоў ішоў. Першы, я сустрэўся з ім каля Чортавага Вока, як пабачыў мяне з вобразам сьвятога Язэпа, зьвярнуў у бок і зьнік, а другая — дык гэта вельмі страшная: вочы гараць, з губы вагонь палае..

СЫМОН. — (*у бок*) Лявоніху сўстрэў.

ЛЯКСЕЙ. — (*выходзячы наперад у шапцы і галёшах Цыпрука*) Ну, і што пачаў рабіць, калі яе пабачыў?

ЦЫПРУК. — Пэўне-ж не ўцякаў. Пачакаў пакуль яна... пакуль яна.. (*глядзіць на Ляксея*)

ЛЯКСЕЙ. — Чаго заікацца пачаў?

ЦЫПРУК. — Ды я . ды . . Адкуль у цябе гэта?

ЛЯКСЕЙ — Што?

ЦЫПРУК — Вопратка мая.

ПЁТРА. — І галёшы. | (*адзін за адным*
МІХАСЬ. — І шапка. | *хутка; амаль*
АНДРЭЙ. — І сьвяты Язэп. | *што разам*)

УСЕ. — Ха-ха-ха!.. Дзе вы ўзялі гэта?

ПЁТРА. — У лесе знайшлі.

ПРАКОП — Вось праклятая нячыстая сіла! Пэўне, як падкідала ды перакідывала цябе, ты і не заўважыў, як згубіў.

ЦЫПРУК — Але, але, і не заўважыў! Аддай.

ПРАКОП — Вось бачаце, блазнота, што старыя праўду кажуць, бо гэтую праўду ведаюць. А то гуттаркі па людзях пушчаеце, што царква для папоў толькі патрэбна, што нічога, нікога няма, што ўсё лгарства і, што толькі косамол адзін ўсё знае. Вось бачыцце самі, што бяз бога ні да парога. Каб не казаў ён пацеры — невядома ці жывым застаўся-бы.

ЦЫПРУК. — І я-ж кажу, ня ведаю, як гэта я жывы астаўся.

ІГНАТ. — Нічога яму не памагло ні малітвы, ні сьвяты Язэп, і ўсё што ён кажа — брахня.

ЦЫПРУК. — Як брахня?.. Ці ты быў, што можаш ведаць?

ІГНАТ. — Быў і бачыў.

МІХАСЬ. — Гэта мы цябе напалохалі.

ЛЯКСЕЙ. — І чулі, і бачылі, як ты маліўся.

МІХАСЬ. — А я табе пад ногі падкаціўся.

ЦЫПРУК — Лжэце вы! Чулі, як я сказаў, а цяпер кажаце, што гэта вы былі.

СЫМОН — Калі ня вераш хлапцам, то вось Лявоніха пацьвердзіць іх словы; яна тож у лесе была.

ПРАКОП — Лявоніха! Яе лепш ня чапай. Па цэлай ваколіцы няма лепшай варажбіткі за яе.

ПЁТРА — Ды вось яна ўсё і раскажа, як і што ў лесе было.

ХЛАПЦЫ — Лявоніха, пачынай! Слухаем...

ЛЯВОНІХА — Ды што казаць? няпраўда ўсё гэта?

ПРАКОП — (*здаволена*)Ага! Я-ж казаў...

СЫМОН — Пачакай, яна толькі пачала.

ЛЯВОНІХА — Няпраўда тое, што Цыпрук кажа.. нічога гэтага ня было .. Я.. я была ў лесе.. бачыла . хлапцы напужалі яго . А я.. (*змолкла*)

ПЁТРА — Ну, а далей? чаго замоўкла?

ЛЯВОНІХА — Далей... браткі, сорамна... гаварыць самой.

СЫМОН — Тады я скажу. Мы ўчора паспорылі з Цыпруком і пашлі ў лес. Лявоніха чула пра гэта і, каб падтрымаць веру ў розную чартаўшчыну, намысьлілася пайсьці за намі і прадставіцца нейкім страшыдлам, але нашы хлопцы і дзяўчаты ня спужаліся і выкрылі бабку.

ПРАКОП — Ня можа быць гэтага? Лжэш, смаркач!

ЛЯВОНІХА — Не, суседзе, ён праўду гаворыць. Усё гэтак і было.. І інакш цяпер трэба жыць і верыць.

РЫГОР — А што ты раней казала?

ЛЯВОНІХА — Мысьліла, што праўду старыя казалі, ды бацькі з малых дзён вучылі гэтаму, а потым карысна было. А цяпер бачу, што... што... (*Сымону*) А цяпер, сынок, дай мне кавалачак зямлі, як ты учора казаў, і я пастараюсь жыць інакш... па-новаму.

СЫМОН — Зямлі, бабка, ня ў мяне трэба прасіць, але падай заяву ў сельсавет; самую ж заяву магу я табе напісаць.

ПРАКОП — Што яна гаворыць? Звар'яцела баба.

ЛЯВОНІХА — Не, суседзе, не вар'ятка я, а толькі не хачу ашукваць больш людзей.

МОЛАДЗЬ — Маладзец, бабка! Так і трэба!

РЫГОР. — Слухаў я гэтыя гутаркі ды на вус матаў. Дык вось яно як гэта робіцца? Пяцьдзесяць год жыву і веру, а ўва што? У ману дошлых людзей? Веру Лявонісе, веру іншым, а яны жарты строяць з гэтага. Дык годзі-ж! Праўду, відаць хлапцы нашы казалі, разумець пачынаю.

ПРАКОП — Сорам табе, Рыгор, гэтак гаварыць. Каб блазьнюком быў, а то стары ўжо чалавек.

РЫГОР — Так стары. І зноў кажу, што праўду хлапцы нашы комсамольцы кажуць, што менш сьляпой веры, а больш сьвядомай праверкі.

ПРАКОП — Слухай, сусед, апамятайся, што гаворыш, каб не шкадаваў потым.

РЫГОР — Мне да памяці прыходзіць няма чаго. Я ўжо дашоў, а табе дык гэта патрэбна яшчэ зрабіць. Як старшыня саюзу вераючых, ты шмат чаго можаш зрабіць. Кінь цямноту сеяць.

ПРАКОП—Калі ты гэтак разважаеш, то я ў свой дом дачкі тваёй ня прыму. Ня трэба мне бязбожнікаў.

ЗОСЬКА. — Я і сама не пайду.

РЫГОР — Ціха, дочка, я скажу. (*да Пракопа*) Ты мысьліш, што я з ахотай даваў згоду на гэтае вясельле? Не! Патрэба змушала і ты спакушаў, кажучы што даруеш пазыку, якую я ў цябе браў. Але цяпер гэта ня страшна. Дзякуючы нашаму комітэту атрымаў каня, насеньня.. Магу цяпер дачкі не прадаваць, і не прадам.

ЗОСЬКА — Татачка, родненькі! (*абнімае яго*)

ЦЫПРУК — Татку, як-жа гэта?... Я Зоські не аддам... мы ўжо заручыліся..

ПРАКОП — Нічога, другую сабе знойдзеш, лепшую. (*да Рыгора*) А ты .. комсамолец згрыбелы, каб сягоньня пазыку аддаў! (*да Цыпрука*) Ідзем, Сынок!.. (*выходзяць*)

ПЁТРА — Цыпрук, са сваёй варажбой Зоську згубіў.

ХІМКА — А я ўсё-ж як прычувала, што Зоська за Цыпрука ня пойдзе.

СЫМОН — Цыпрук згубіў Зоську, але мысьлю, што Зоська нічога ня страціла. Калі захоча, дык я пастараюся замяніць Цыпрука. (*да Рыгора*) Слухай, бацька, аддай за мяне дачку сваю. Хаця у мяне няма гэткага багацьця, як у Цыпрука, за тое ёсьць рукі ды галава.

РЫГОР — Дзеткі мае, навошта мяне пытацца? Калі самі згаворыцеся, то я толькі пажадаю вам шчасьця ды згоды ў жыцьці.

СЫМОН — Дык як, Зоська, згодна са мною, ці не?

ЗОСЬКА — Я згодна.

УСЕ — Ура!... Вось і добра!

ПЁТРА — Сягоньня і вясельле зробім. Хлопцы і дзяўчаты, увечары ўсе на сход у хату-чытальню: Сымона з Зоськаю будзем вянчаць! (*пяе*)

Вось тут на радасьці вялікай
Пажадаем грамадой,

Каб Сымон жыў век шчасьліва
З прыгожай Зосечкай сваёй.
(*усе паўтараюць гэты куплет*)
Ім тут вясельле зараз справім,
Агульным сходам праведзем,
І гэтым шлюбам людзям скажам,
Што новы быт ўвадзіць пачнем (*усе паўтараюць*)

МАРЫСЯ — Зоська дык сабе сасватала Сымона, а табе, Ганка, дык напэўне прыдзецца дзеўкай і сёлета астацца.

ГАНКА — Глупства! Калі-небудзь і да мяне чарга дойдзе.

ЛЯВОНІХА — Мо' і дойдзе, і знойдзецца такі, што не пабаіцца твайго нраву і пераробіць цябе на свой лад.

ГАНКА — Гэтага ніколі ня будзе Хто захоча шалёную жанку сабе браць? (*пяе*)

Я шалёнаю радзілась
і шалёнаю памру,
Калі голаву мне здымуць
Я палена прывяжу.
Той на сьвет 'шчэ не радзіўся,
Хто-бы тузгаўся са мной,
Чымсі жыць з анучай мужам
Векаваць лепш ўжо адной.
Муж патрэбен мне адважны,
Каб змагаўся з цёмнатой,
Каб памог мне ў працы гэтай,
Каб быў таварыш добры мой.

(*пры паўтарэньні*) Адгукніся, хто гатоў?!

ПЁТРА — Я! Мысьліш жартую? Не. Даўно ўжо хацеў з табою пагаварыць аб гэтым.

ГАНКА — Ты? Добра Памысьлю. А цяпер давайце гуляць. А ну, грамада, станоўся ў пары. Юрку ў прысядкі.

(*танец*)

**Канец.**

# КРЫТЫЧНЫ РАЗЬДЗЕЛ.

## Практычныя паказаньні маладняцкім гурткам пры разглядзе мастацкіх твораў. *)

1) Крытыка, як адзін з спосабаў выхаваньня.

Рэзолюцыя ЦК РКП(б) **) аб літаратуры вызначыла, якое вялікае значэньне мае крытыка як для разьвіцьця самэй пролетарскай літаратуры, так і для распаўсюджваньня сярод рабоча-сялянскага грамадзтва разуменьняў мастацтва і наогул ідэй марксізму. Крытыка—гэта адзін з тых чыньнікаў у выхаваньні новага чалавека, чалавека соцыялістычнага грамадзтва, што складае галоўнае паданьне нашай эпохі—эпохі дыктатуры пролетарыята.

2) Беларуская крытыка дакастрычнікавае пары. Яе мэты.

Беларуская крытыка дакастрычнікаўскай пары мела сваім заданьнем выяўленьне фактаў, якія-б зьяўляліся жывымі сьведкамі адраджэньня Беларусі, і тым самым ставіла задачу выхаваньня беларуса-чалавека, сьвядомага нацыянальна, галоўным чынам, і абуджанага ў сьвядомасьці соцыяльнай.

3) Уплыў рэволюцыі на дакастрычнікавую крытыку. Хваробны ўхіл гэтае крытыкі.

Кастрычнікаўская рэволюцыя разьвязаўшы задачу нацыянальнага і соцыяльнага вызваленьня выбіла грунт у культурна нацыянальнальнай крытыкі, вынікам чаго зьявілася накіраванасьць яе ў бок ацэнкі мастацкіх твораў з боку мастацкасьці, тым самым маскіруючы ў аснове ўсё тыя-ж задачы

4) Новая крытыка.

Накапленьне літаратурных фактаў у пасьля-кастрычнікаўскую эпоху ставіць рабоча-сялянскае грамадзтва ў асобе яго літаратурных колаў перад неабходнасьцю ацэнкі гэтых фактаў перш за ўсё з боку соцыялёгічнага; такім чынам пачынае нараджацца новы крытэры для суджэньня літаратурных твораў, менавіта, крытэры сацыялёгічнай вартасьці.

**5) Маладнякоўцы, як ініцыятары ў новай крытыцы.**

У разьвіцьці гэтага разуменьня і распаўсюджаньні яго павінны ўзяць першы удзел тыя, хто выклікан Кастрычнікам для будаўніцтва новага жыцьця на социялістычных пачатках. Маладнякоўцы павінны адыграць у гэтай працы вялікую ролю, узяўшы на сябе ініцыятыву крытычна-дасьледчага разгляду накопленых літаратурных фактаў.

**6) Тры бакі мастацкага твору.**

Усякі літаратурны факт можа разглядацца ў трох момантах, менавіта: а) мастацкі твор, як рэч у сабе, б) мастацкі твор, як факт вытворны і в) мастацкі твор як, факт творчы, або фактар.

**7. а) Мастацкі твор, як рэч у сабе.**

Разглядаць мастацкі твор, як рэч у сабе—гэта значыць, пазнаць: з якіх элемэнтаў ён складаецца, як гэтыя элемэнты організаваны ў ім у цэлае, іначай кажучы—апісаць ўсе адзнакі гэтых элемэнтаў і ахарактарызаваць іх дачыненьні і прынцып іх адзінства у цэлым.

**8. б) Мастацкі твор, як факт вытворчы.**

Разглядаць мастацкі твор, як факт вытворчы, гэта значыць: выясьніць, якія факты жыцьця леглі ў аснову стварэньня мастацкага твору, з якіх галін жыцьця ўзяты гэтыя факты, іначай кажучы у гэты момант разгляду мастацкага твору важна выявіць карэньні яго ў социяльнасьці, устанавіць сувязь прычынную між фактамі з социяльна-грамадзкага жыцьця і фактамі складаючымі мастацкі твор.

**9. в) Мастацкі твор, як факт творчы.**

Разглядаць мастацкі твор, як факт творчы, гэта значыць-выявіць тыя факты як социяльна-грамадзкага, так і індывідуальнага і літаратурнага жыцьця у склад якіх увайшоў мастацкі твор, як адзін з фактаў, што вызначылі сабою факт вышэйшы.

**10) На чым павінна быць затрымана галоўная ўвага маладнякоўцаў.**

На разгляд твораў у гэтым трэцьцім моманце маладнякоўцы павінны зьвярнуць самую галоўную ўвагу, дзеля таго каб сабраць як мага больш матар'ялаў дзеля судженьняў аб сучасных разуменьнях як мастацкі так і социялёгічна—каштоўнага, аб сучасных ідэалах прыгожага, аб сучасных адчуваньнях гэтага прыгожага, аб сучасных жаданьнях павіннага быць і г. д.

**11) Як практычна трэба разглядаць мастацкі твор на якіх пытаньнях трэба больш за ўсё затрымлівацца.**

Дзеля разьвязаньня вышэй азначанай задачы пры разглядах мастацкіх твораў неабходна галоўным чынам, ставіць і разьвязваць такія пытаньні:

а) Якія адчуваньні адбудзіў у вас прачытаны твор.

б) Якія імкненьні зьявіліся пасьля прачытаньня твору

в) Што новага пазналі вы праз твор.

г) Што жадалі-б яшчэ дазнацца з твору.

д) Як вы сабе мысьліце ідэал прыгожага, што вам здаецца прыгожым у жыцьці.

е) Ці адпавядае мастацкі твор вашаму ідэалу прыгожага і вашаму ідэалу жыцьця.

ж) Ці адпавядае прачытанае вамі ў творы рэальнай праўдзе, або ці ствараэ хаця ілюзію праўдзівасьці, як вы гэту поэтычную праўду разумееце.

з) Якія прадстаўленьні выплываюць у вас у зьвязку з чытаньнем твору.

і) Як успрыймаецца вамі форма твору і якія прадстаўленьні і адчуваньні выплываюць у вас у зьвязку з гэтым успрыняцьцем.

к) Якою вы выяўляеце форму мастацкага твору адпаведна свайму ідэалу і ці адпаведае форма чытаемага твору гэтаму выяўленьню.

л) Ці пашырылася ваша разуменьне і жыцьця і прыгожага у жыцьці у зьвязку з прачытаным творам.

**12) Куды накіроўваць матар'ял для разгляду твораў.**

Матар'ялы з разглядамі твораў трэба накіроўваць прэзыдыуму Калінінскай Філіі (Клімавічы, Акругком КПБ), які азнаёміўшыся з імі перашле іх ў ЦБ «Маладняка» для крычычнадасьледчага аддзелу.

Раіцца разглядзець творы: Александровіча, Вольнага, Гурло, Дудара, Дубоўкі, Зарэцкага, Крапівы, Пушчы, Падабеда, Труса, Чарота, Чорнага, Якімовіча і інш.

*) Артыкул даецца на падставе інструкцыйнага лісту ЦБ „Маладняка" па філіям ад 22/I-1926 г., выпрацаванага А. Бабарэкай.

**) Рэзолюцыю ЦК РКП аб літаратуры можна прачытаць у „Правде" за 1 Чэрвеня 1925 году за № 147 (3 78)

# Зьмест

Дзяржаўнае Выдавецтва
**БЕЛАРУСІ**

**КАЛІНІНСКАЕ**
Акруговае Аддзяленьне
**КНІГАРНЯ**

Клімавічы Савецк. вул.

Бягучы рах. № 9 у агенцтве Дз. Банку.

Кнігі на беларускай, расейскай, эўрэйскай і польскай мовах.

**АБСЛУГОУВАЕ** ўсю Калініншчыну **ПАДРУЧНІКАМІ**

**ЛІТАРАТУРАЙ** навукова—прыгожай,

**ПОЛІТЫЧНАЙ**, соцыяльна-экономічнай, піонэрскай, комсамольскай, **БЕЛЕТРЫСТЫКАЙ**, тэатральнай, профэсыянальнай, **СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧАЙ**, **ПЭДАГОГІЧНАЙ**, коопэратыўн., спэцыяльна-сялянск., **ДЗІЦЯЧАЙ**.

і па інш. пыт.

**ПРЫМАЕ ПАДПІСКУ**

на цэнтральныя і провінцыяльныя **ГАЗЭТЫ** і **ЧАСОПІСІ**, выдаючыяся ў СССР, а таксама і на замежныя, дазволеныя да ўвозу ў СССР.

Высылае любую кнігу накладнай аплатай. Прадае розныя канцалярскія прылады і папяровыя вырабы.

Высылае любую кнігу накладной аплатай. Задатак — пашт. марк.

Мае свае Раённыя аддзяленьні **КНІГАРНІ**

КАСЬЦЮКОВІЧЫ — МСЬЦІСЛАЎ
КРЫЧАЎ — РАСНА
КРАСНАПОЛЬЛЕ — ЧЭРЫКАЎ
ХОЦІМСК

*Аддзяленьне Б. Д. В.*

